# ДЫРЭКТЫЎНА-ІНФАРМАЦЫЙНЫ ЛІСТ

Галоўнага Кіраўніцтва Сацыяльнага Страхаваньня БССР

№ 2 = ВЫХОДЗІЦЬ 1 РАЗ У МЕСЯЦ = МЕНСК, 27 ЛЮТАГА 1929 г. № 2






## Да Ўсебеларускае нарады старшынь тэрытарыяльных і транспартных страхкас.

На 5 сакавіка г. г. Галоўсоцстрахам склікаецца нарада старшынь акруговых—тэрытарыяльных і транспартных страхавых кас, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі. Нарада павінна абгаварыць пытаньні фінансавай працы страхавых органаў у сувязі з выкананьнем бюджэту на 1928-29 г. і пастановамі VIII Усесаюзнага зьезду прафсаюзаў, становішча захвараемасьці і прамысловага траўматызму ў Беларусі, становішча страхаваньня батрацтва, далейшыя мерапрыемствы па палепшаньні абслугоўваньня застрахаваных і г. д.

Два гады, якія абмяжоўваюць нас ад апошняе нарады старшынь акрстрахкас Беларусі, багаты цэлым шэрагам грунтоўных зьмен ва ўсіх галінах сацыяльнага страхаваньня. Зусім бясспрэчным і відавочным для усіх зьяўляюцца тыя дасягненьні, якія маюцца у сацыяльным страхаваньні за апошнія гады як у галіне колькаснага абхопу працоўных сацыяльным страхаваньнем, так і ў якасным палепшаньні абслугоўваньня шырокіх мас застрахаваных.

Было-б аднак памылкай лічыць, што у справе сацыяльнага страхаваньня усё абстаіць добра. Не,—у нашай працы маецца шэраг вялікіх недахопаў, якія перашкаджаюць разьвіцьцю сацыяльнага страхаваньня. Фінансавае становішча органаў сацыяльнага страхаваньня яшчэ вельмі напружанае і у шэрагу месцаў пагражае перабоямі у абслугоўваньні застрахаваных. Яшчэ вельмі высокі каэфіцыэнт захвараемасьці і прамысловага траўматызму у Беларусі, што ня толькі адбіваецца на бюджэце сацыяльнага страхаваньня, але значна перашкаджае разьвіцьцю нашае прамысловасьці. Зусім нездавальняючы абстаіць справа з сапраўдным страхаваньнем батрацтва, не выкарыстаны яшчэ усе магчымасьці для спрашчэньня і палепшаньня абслугоўваньня застрахаваных і г. д. Выкрыць усе гэтыя недахопы і намеціць мерапрыемствы па іх зьнішчэньні—вось асноўная задача нарады.

Нарада павінна пад знакам пралетарскае самакрытыкі рашуча выявіць усе балючыя месцы у справе сацыяльнага страхаваньня, дружнымі усіліямі страхавога актыву пры удзеле прафсаюзных арганізацый і непасрэднае дапамозе шырачайшых мас застрахаваных павесьці сацыяльнае страхаваньне да новых дасягненьняў. Мы шчыра вітаем Усебеларускую нараду работнікаў сацыяльнага страхаваньня і выражаем цьвёрдую упэўненасьць, што з пастаўленымі перад ёй задачамі нарада справіцца.



**Парадак дню Ўсебеларускае нарады старшынь тэрытарыяльных і транспартных кас.**

1) Фінансавае становішча сацыяльнага страхаваньня і чарговыя задачы ворганаў сацстраху Беларусі у сувязі з выкананьнем бюджэту органаў сацстраху Беларусі на 1928/29 г. і рашэньняў VIII Усесаюзнага зьезду прафсаюзаў (даклад. тав. Мяркулаў).

2) Даклад Менскай акрстрахкасы аб выніках страхаваньня батрацтва і пастушаства у Менскае акрузе і садаклад Галоўсоцстраху аб мерапрыемствах па далейшаму паглыбленьні гэтае працы у Беларусі (даклад. тав. Міруц, садакладчыкі т. т. Амстэрдам і Лашкевіч).

3) Становішча захварваемасьці і прамысловага траўматызму сярод застрахаваных і задачы страхкас у гэтае галіне (даклад. т. Гольдзін).

4) Даклад аб далейшае працы па палепшаньні і спрашчэньні абслугоўваньня застрахаваных (даклад. тав. Давідовіч).

5) Асноўныя паказальнікі пяцігадовага пляну па сацстраху БССР (даклад. тав. Мяркулаў).

6) Бягучыя справы: а) аб перавыбарах К-таў страхкас, б) адбор хворых на курорты і ў санаторыі, в) аб паясным дзяленьні, г) аб дзяржнармаваньні зарплаты упаўнаважных і г. д.

Паведамляючы аб гэтым Галоўсацстрах просіць к паказанаму тэрміну зьявіцца без спазьненьняў.

Матар'ял дадаецца:

Намесьнік Народнага Камісара Працы і Нач-к Галоўсоцстраху БССР *Мяркулаў.*

Ст. Інспэктар па арганіз. Працы *Давідовіч.*

Матар'ял да дакладу тав. Мяркулава аб фінансавым становішчы сацыяльнага страхаваньня і аб чарговых задачах ворганаў сацстраху Беларусі у сувязі з выкананьнем бюджэту на 1928-29 г. і рашэньняў VIII Усесаюзнага зьезду прафсаюзаў.

## I. Фінансавыя апэрацыі і фінансавае становішча.

### Стан фондаў на 1/X-27 г.

Да пачатку справаздачнага году фінансавае становішча ворганаў сацыяльнага страхаваньня Беларусі характарызавалася наступнымі цыфрамі:

Па мясцоваму фонду страхкас фактычны фондавы перавыдатак складаў Р. 530.151—49. Па паасобных акругох мы мелі наступны малюнак стану мясцовага фонду страхкасы.

Стан мясцовага фонду страхкас па балянсу на 1/X—1927 г.

| Акруга. | Астача. | | Перавыдатак | |
|---|---|---|---|---|
| Менск . | — | — | 299.109 | 77 |
| Віцебск . | — | — | 142.270 | 35 |
| Гомель . | — | — | 21.841 | 36 |
| Бабруйск . | 40.925 | 52 | — | — |
| Магілеў . | — | — | 181.803 | 45 |
| Орша . . | 32.697 | 10 | — | — |
| Полацк . | — | — | 17.144 | 04 |
| Мазыр . | 2.839 | 60 | — | — |
| Барысаў . | 55.555 | 26 | — | — |
| Разам . | 132.017 | 48 | 662.168 | 97 |

Толькі 4 касы: Бабруйская, Аршанская, Мазырская і Барысаўская мелі той ці іншы астатак па фонду страхкасы, з іх: Бабруйская—у разьмеры 12-дзеннай патрэбнасьці, Аршанская—15-дзеннай, Барысаўская—35-дзеннай і Мазырская—2-дзеннай. Астатнія касы ня толькі ня мелі запасу уласных сродкаў, але зьвялі балянс на 1/X-1927 г. са значнымі сумамі дэфіцыту.

Апэрацыі па рэспубліканскаму фонду сацстраху былі заключаны у 26/27 г. з астачай Р. 311.908—60. Такім чынам, агульны стан фонду сацстраху Беларусі—мясцовага і рэспубліканскага сумесна узятых—раўняўся Р. 218.242—89 дэфіцыту.

## Фінансавыя пэрспэктывы да пачатку 27/28 г.

Фінансавыя пэрспэктывы, якія вызначыліся да пачатку 27/28 году, былі вельмі няспрыяючымі. Складзены Галоўсоцстрахам бюджэт на 1927/28 г. быў зацьверджаны Саўнаркомам Беларусі з дэфіцытам у Р. 328.000. Прадбачылася яшчэ павялічэньне бюджэтнага дэфіцыту на Р. 150.000 у сувязі з павялічэньнем—пасьля складаньня бюджэту—ставак дапамог беспрацоўным. Трэба таксама адзначыць вялікую напружанасьць прыбытковых вылічэньняў па бюджэту 27-28 году: у той час, калі справаздачныя даныя апошніх год паказалі бязумоўную тэндэнцыю далейшага спаданьня сярэдняга страхавога тарыфу—апошні быў пакінут у бюджэце стабільным—на узроўні 26/27 г.

## Прыбытак ворганаў Сацстраху Беларусі за 27/28 г.

Усяго паступіла прыбыткаў за 27/28 г.

| Артыкулы. | Сумы. | | У $^0/_0{}^0/_0$ да ітогу. |
|---|---|---|---|
| 1. Узносаў па агульнаму страхаваньні | 15.398.432 | 93 | 97,44 |
| 2. Пені . . . . . . | 221.583 | 51 | 1,40 |
| 3. Штрафаў . . . . . | 14.276 | 48 | 0,09 |
| 4. $^0/_0{}^0/_0$ на капітал. . . . | 23.915 | 63 | 0,15 |
| 5. Ад чыгуначнай касы Зах. чыг.—адлічэньняў у Рэсп. фонд лек. дапамогі . . . . . | 71.099 | 34 | 0,45 |
| 6. Іншых паступленьняў . . | 7.146 | 82 | 0,04 |
| Усяго па агульнаму страхаваньні . | 15.736.454 | 71 | 99,57 |
| 7. Узносаў па страхаваньні асоб, занятых па найму у сялянскай гаспадарцы . . . . | 10.643 | 67 | 0,07 |
| Усяго уласных прыбыткаў . . | 15.747.098 | 38 | 99,64 |
| 8. Ад Цустраху датацыі на падмацаваньне Рэсп. фонду сацстраху. | 56.000 | — | 0,36 |
| Усяго . . . . . | 15.803.098 | 38 | 100.0 |

У параўнаньні з сумай паступленьняў у 26/27 г. прыбыткі 1927/28 г. паказваюць рост: па валавой суме паступленьняў—на 17,6 проц., а па прыбытках у фонды сацстраху Беларусі—на 18,1.

Трэба адзначыць, што у прыбытак ня уключаны сумы, атрыманыя ад прафарганізацый і НК Аховы здароўя за арэндаваныя ложкі у зімовых дамох адпачынку (Р. 147.860—29) і Р. 95.000—ад НК Аховы Здароўя у адплату выдаткаў на пабудову будынку дзеля зімовага дому адпачынку у Ждановічах (Менскае акругі), замест перададзенага яму памяшканьня цэнтральнага дому адпачынку (Менск).

**Выдаткі страхавых ворганаў Беларусі за 1927/28 г. разьмяркоўваюцца наступным чынам:**

| Артыкулы выдаткаў. | Сума | | У %% да ітогу. |
|---|---|---|---|
| **I. Бягучыя выдаткі.** | | | |
| 1) апэрацыйныя. | | | |
| а) па часовай непрацаздольнасьці . | 3.356.021 | 30 | 21,13 |
| б) па дадатковых відах забясьпечаньня застрахаваных . . | 1.070.878 | 95 | 6,74 |
| в) забясьпечаньне па інваліднасьці . | 2.636 452 | 75 | 16,60 |
| г) забясьпечаньне па беспрацоўю . | 2.119.393 | 11 | 13,35 |
| д) прафілактычныя выдаткі (за кошт уласных сродкаў) . . . | 361.295 | 69 | 2,28 |
| е) страхавая асьвета . . . | 5.303 | 89 | 0,03 |
| ж) утрыманьне ворганаў урачэбнага кантролю . . . . . | 96.051 | 52 | 0,60 |
| з) утрыманьне інспэкцыі працы . | 24.959 | 96 | 0,16 |
| е) іншыя апэрацыйныя выдаткі . | 7.842 | 69 | 0,05 |
| Усяго . . . | 9.678.199 | 86 | 60,94 |
| ж) выдаткі па страхаваньні на вёсцы | 278 | 34 | — |
| Усяго апэрацыйных выдаткаў . . | 9.678.478 | 20 | 60,94 |
| 2) Арганізацыйныя выдаткі . . | 435.424 | 22 | 2,74 |
| 3) Іншыя выдаткі (сьпісаньне безнадзейнае запазычанасьці і страт) | 12.549 | 14 | 0,08 |
| Усяго па непасрэдных выдатках . | 10.126.451 | 56 | 63,76 |
| 4) Адлічэньні: | | | |
| а) у фонды мэддапамогі. . . | 3.418.929 | 64 | 21,53 |
| б) „ Усесаюзны фонд сацстраху . | 511.249 | 11 | 3,22 |
| в) „ фонд рабочага жыльлёвага будаўніцтва (адлічэньні і мэтавая надбаўка). . . . . | 1.558.344 | 43 | 9,81 |
| Усяго бягучых выдаткаў. | 15.614.974 | 74 | 98,32 |
| **II. Надзвычайныя выдаткі.** | | | |
| Выдаткавана на працягу году на новае будаўніцтва, капітальны рамонт дамоў адпачынку і санат. „Сасноўка“ і набыцьцё маемасьці. | 266.721 | 25 | 1,68 |
| Разам выдаткаў . . | 15.881.695 | 99 | 100 |

Такім чынам выдаткі страхавых ворганаў Беларусі за 1927-28 г. па параўнаньні з прыбыткамі за гэты год, за вылікам атрыманых ад цустраху 56.000 р., складалі 100,85 проц. Бюджэт быў зьведзены з дэфіцытам у Р. 134.597—60.

Дзякуючы водпуску Цустрахам паказананых Р. 56.000, перавыдатак па апэрацыях справаздачнага году складаў Р. 78.597—60.

**Стан фонду на 1-X—1928 г.**

Агульны стан фондаў сацстраху Беларусі на 1-X—28 г., уключачаючы перавыдатак на 1-X—27 г. Р. 218.242—89, складае дэфіцыт Р. 296.840—49, з іх:

а) па мясцоваму фонду страхкас.

| Акругі | Астача | | Перавыдатак. | |
|---|---|---|---|---|
| Менск | — | — | 566.537 | 41 |
| Віцебск | — | — | 197.861 | 47 |
| Гомель | — | — | 43.541 | 97 |
| Бабруйск | 36.757 | 20 | — | — |
| Магілёў | — | — | 245.246 | 16 |
| Ворша | — | — | 33.152 | 46 |
| Полацк | 16.851 | 54 | — | — |
| Мазыр | 45.667 | 67 | — | — |
| Барысаў | 49.497 | 05 | — | — |
| Разам | 148.773 | 46 | 1.086.339 | 47 |

Агульны стан мясцовага фонду страхкас Р. 937.566—01 перавыдатку.

б) па рэспубліканскаму фонду соцстраха маецца астача Р. 640.725—52

**Агульная ацэнка характару фінансавых апэрацый 27-28 г.**

Даваючы ніжэй больш падрабязны аналіз выкананьня бюджэту 27-28 г., тут жа неабходна адзначыць аснаўныя моманты, якія павінны легчы у аснову нашае ацэнкі вынікаў фінансавых апэрацый і фінансавае работы страхавых органоў Беларусі за 27-28 г.

1) Бюджэт па мясцоваму фонду страхкас выкананы з дэфіцытам Р. 424.514 (фактычны дэфіцыт Р. 171.514, але сюды трэба дадаць Р. 253.000, выдаткаваных Галоўсоцстрахам на працоўную дапамогу беспрацоўным таму, што у папярэднія годы гэты выдатак праходзіў па мясцоваму фонду страхкас) замест дэфіцыту у 26-27 г. Р. 508.197 і у 25-26 г. Р. 633.237.

Выдатак у 1927-28 г. складаў 104,3 проц. у адносіне да прыбытку замест 106,2 проц. у 26-27 г. і 110,93 проц у 25-26 г.

2) Агульны бюджэт фондаў сацстраху Беларусі —мясцовага і рэспубліканскага сумесна узятых, выкананы з дэфіцытам у Р. 134.597—60 замест мяркуемых бюджэтам Р. 340.000. Сума дэфіцыту да канца 27-28 г., уключаючы перавыдатак мінулых год, складае Р.296—840—49 замест мяркуемых бюджэтам Р. 558.242—89.

3) Паказаныя цыфры гавораць аб некаторым паслабленьні напруджанасьці фондаў сацстраху Беларусі па параўнаньні з фінансавым становішчам да пачатку справаздачнага году і пэрспэспэктывамі, намечанымі на 27-28 г.

4) Паказаны вышэй пералом у ступені напруджанасьці фінансавага становішча страхавых органаў Беларусі мы можам канстатаваць дзякуючы двум наступным акалічнасьцям, якія дапамагалі значнаму падмацаваньню фінансавае базы на працягу зышоўшага году:

а) асноўным фактарам забясьпечыўшым выкананьне бюджэту са значна меньшым дэфіцытам, чым гэта прадугледжвалася бюджэтам, зьяўляецца узмацненьне фінансавае работы страхавых кас наагул і па спагнаньні утварыўшайся у мінулыя гады запазычнасьці па страхавых узносах і праверцы правільнасьці паказаных страхавацелямі зьвестак аб выплачанай зарплаце у прыватнасьці.

У выніках таго, што на працягу 27-28 г. усімі страхавымі органамі Беларусі быў ажыцьцяўлен энэргічнейшы націск у галіне выяўленьня і спагнаньня усіх прылічваючыхся страхавых плацяжоў, мы маем па справаздачных даных: інтэнсыўнасьць спагнаньня у разьмеры 102,56, замест мяркуемых бюджэтам 102,03 проц. і Р. 260.000 дадатковых узносаў па выяўленай захаванае зарплаце. Запазычнасьць па страхавых узносах зьменшылася на Р. 207.000.

б) Другім з аснаўных мерапрыемстваў, забяспечыўшых памыснае, у параўнаньні з бюджэтнымі пэрспэктывамі, заключэньне балянсу за 27-28 г. зьяўляецца пералічэньне з фонду мэддапамогі у фонды сацстраху Р. 263.035—20 у парадку пастановы Саюзнага Савету Сацыяльнага Страхаваньня № 173.

## Рэгуляваньне фондаў у 27-28 г.

Параўнаньне цыфравых даных, якія характарызуюць стан мясцовага і рэспубліканскага фонду сацстраху, выяўляе неурэгуляванасьць фондавых узаемаадносін паміж страхкасамі і Галоўсоцстрахам, сьледам чаго пры наяўнасьці па мясцоваму фонду страхкас перавыдатку ў Р. 937.566—01 маецца па Рэспубліканскаму фонду сацстраху астача Р. 640.725—92.

Гэтая акалічнасьць тлумачыцца тым, што падмацаваньне Галоўсоцстрахам мясцовых фондаў дэфіцытных страхкас, вытваралася не у парадку афармленага водпуску датацыі, а шляхам бягучага пакіданьня дэфіцытным акругам належачых да пераводу у цэнтралізаваныя і рэспубліканскія фонды сум.

У якой ступені водпуск датацыі дэфіцытным касам, шляхам пакіданьня ім адлічэньняў у Рэсп. фонды, адапавядаў фактычнаму характару бюджэтаў кожнае данае акругі відаць з наступнай табліцы, якая гаворыць аб стане узаемаразрахункаў паміж дэфіцытнымі страхкасамі і Галоўсоцстрахам на 1-X—1928 г.

Стан узаемаразрахункаў з касамі на 1-X—1928 г.

| Акругі | Перавыдатак. | | Адпушчана датацыі шляхам застаўленьня сум, надляг. пераводу у цэнтр. фонды. | |
|---|---|---|---|---|
| Менская . . . . | 566.537 | 41 | 334.429 | 45 |
| Віцебск . . . . . | 197.861 | 47 | 278.756 | 55 |
| Гомельская . . . | 43.541 | 97 | 100.006 | 87 |
| Магілеўская . . . | 245.246 | 16 | 189.362 | 55 |
| Аршанская . . . | 33.152 | 46 | 48.580 | 98 |
| Разам. . | 1.086.339 | 47 | 960.646 | 47 |

У пачатку 1928-29 году Галоўсоцстрахам было вытварана поўнае урэгуляваньне фондавых узаемаадносін на падставе сьпісаньня за кошт лічачайся запазычнасьці Галоўсоцстраху па цэнтралізаваных рэспубліканскіх фондах—усей сумы фактычнага касавага дэфіцыту на 1 верасьня 1928 г. і забясьпечаньня кожнае акрстрахкасы зваротнымі сродкамі у разьмеры 7-дзеннай патрэбнасьці.

Гэта было магчыма дзякуючы водпуску Цустрахам падмацаваньня Рэсп. фонду сацстраху у суме. Р. 423.676—58 шляхам сьпісаньня яе з прылічваючыхся усесаюзнаму фонду сум па балянсах на 1 верасьня 1928 г.

## II. Кароткая характарыстыка Бюджэтаў Акруговых Страхавых Кас.

Неаднолькавы сацыяльны склад застрахаванае масы па падсобных акругох, розны стан рынку працы і ступені насычанасьці інваліднай масой розьніца у маштабе работы і, урэшце, неаднолькавая якасьць фінансавае работы даюць у выніку розны характар бюджэту паасобных кас, як у адносіне яго роўнавагі, так і у адносіне удзельнае вагі паасобных яго частак.

### Менская Акрстрахкаса.

Па ліку застрахаваных, складаючаму у 27-28 г. 38.890 чалавек альбо 22,4 проц. усяго кантынгэту застрахаваных Беларусі, Менская Акрстрахкаса стаіць на першым месцы як па вялічыне сярэдняе зарплаты застрахаванага, складаючай у 27-28 г. 60 р. 89 к. у месяц пры сярэдняй месячнай па Беларусі—54 р. 12 к.

Сярэдні тарыф узносаў па Менскай акрузе ніжэй сярэдня-рэспубліканскага, менавіта:—12,09 супроць 12,44.

У галіне спагнаньня мы маем: разрахункавыя ведамасьці акуратна прадстаўляюцца на 82,1, што ставіць Менскую Акрстрахкасу на 7 месца па гэтаму паказальніку і фонд зарплаты ахоплен праверкай на 33,2 проц. супроць 4,37 у 26-27 г., пры чым да 1-VI, г. зн. да увядзеньня у штат пасады дадатковага кантралера праверка складала 20,9 проц. фонду зарплаты, у пэрыядзе чэрвэнь — верасень — 54,1. У выніку кантрольняе работы выяўлена 368.000 захаванае зарплаты, што складае 3,8 проц. у адносіне да сумы зарплаты, якая была праверана супроць сярэдняга па Беларусі у 6,1 проц. Па агульных выніках кантрольнае работы, прапарцыянальна маштабу работы Менская Акрстрахкаса стаіць на чацьвертым месцы—пасьля Мазыра, Барысава і Гомеля.

Менш памысными каэфіцыентамі характарызуецца работа у галіне спагнаньня прылічваючыхся сум, так, агульная сума паступіўшых узносаў на працягу году складае 99,0 у параўнаньні з той сумай, якую складаюць бягучыя налічэньні па фонду зарплаты 27-28 г. Сума запазычнасьці паменшылася за год толькі на 7000 р. і складае на 1-Х 28 г. 109.000 р.

Па % спаганяемай пені Менская Акрстрахкаса стаіць на чацьвертым месцы пасьля Барысава, Бабруйска і Віцебска і за 27-28 г. спагнала толькі 45,5 падлягаючай спагнаньню сумы. Зьнята на працягу году 27,7 проц. прылічваўшайся пені, пры сярэдніх па Беларусі паказальніках у 16,8 проц. Па % зьнятай пені яна стаіць на першым месцы сумесна з Воршай.

У адносінах галоўнейшых паказальнікаў страхавай рызыкі Менская акрстрахкаса вылучаецца значна павышаным каэфіцыентам забясьпечаньня па беспрацоўю, складаючым 10,6 беспрацоўным на 100 застра-

хаваных пры сярэднім па Беларусі каэфіцыенце 7,7 і па высаце гэтага паказальніка стаіць на другім месцы (пасьля Барысава).

Каэфіцыенты забясьпечаньня па часовай непрацаздольнасьці—890,4 дня на 100 застрахаваных і па інваліднасьці—6,8 пэнсіянераў на 100 застрахаваных—зьяўляецца меншымі сярэдніх па Беларусі паказальнікаў—915,6 і 7,4.

Фінансавым вынікам адзначаных вышэй аснаўных паказальнікаў па Менскай акрстрахкасе зьяўляецца наступны характар яе бюджэту

Агульная сума валавога прыбытку за 27-28 г. складае Р. 3.366.029,61 альбо 23,4 проц. усіх прыбыткаў страхкас Беларусі. У фонд страхкасы паступіла Р. 2.281.666—32 супроць Р. 2.054.725—71 у 26-27 г. Выдаткі па фонду страхкасы складалі Р. 2.519.093—96 альбо 110,4 проц. прыбыткаў. Справаздачны год закончан з дэфіцытам Р. 237.427—64. Стан фонду страхкасы на 1-Х—28 г. складае Р. 566.537—41 перавыдаткаў. Апошні на 59 проц. быў пакрыт астаткам непераведзеных Галоўсацстраху сум па цэнтралізаваных рэспубліканскіх фондах.

Па ступені дэфіцытнасьці свайго фонду Менская Акрстрахкаса стаіць на першым месцы, маючы за сабой—Мігілеў (107,1), Віцебск (105,22) Воршу (102,42).

Асноўной прычынай вялікай дэфіцытнасьці належыць лічыць вельмі высокі каэфіцыент забясьпечваемых по беспрацоўю і недастатковую інтэнсыўнасьць фінансавае працы.

### Гомельская Акрстрахкаса.

Другое месца па ліку застрахаваных, складаўшаму у 27-28 г. 29.209 ч. займае Гомельская акстрахкаса.

Па высаце зарплаты яна стаіць на чацьвертым месцы, паказваючы за 27-28 г. сярэдня месячную зарплату Р. 53,95 пры сярэдняй па Беларусі 54 р. 12 к.

Сярэдні тарыф узносаў за 27-28 г.—13,08 ставіць Гомельскую акрстрахкасу на трэцьце месца па гэтаму паказальніку пасьля Барысава і Віцебска.

З паказальнікаў якасьці работы ў галіне спагнаньня магчыма адзначыць наступнае. % акуратнага прадстаўленьня разрахункавых ведамасьцяў складаў у 27-28 г. 88,6 (з невялікім павялічэньнем супроць 26-27 г. 87,7). Работа кантрольнага апарату характарызуецца праверкай за 27-28 г. 36,3% усяго фонду зарплаты—супроць сярэдняга па Беларусі—30,7. Інтэнсыўнасьць спагнаньня адзначана каэфіцыэнтам 104,9, г. зн. пятым па высаце (пасьля Мазыра, Барысава, Полацка і Бабруйска).

Непамысным паказальнікам трэба лічыць % спагнаньня пені, які складае па Гомелі 36,3% пры сярэднім па Беларусі—44,8.

Аснаўныя страхавыя паказальнікі характарызуюцца наступным: Забясьпечаньне па часовай непрацаздольнасьці—1046,4 дзен на 100 застрахаваных, значна вышэй сярэдняга па Беларусі (915,6) і ставіць Гомельскую Акрстрахкасу на другое месца (пасьля Барысава). Лік пэнсіянераў на 100 застрахаваных—6,8 і ніжэй сярэдня-рэспубліканскага (7,4). Па ліку забясьпечваемых дапамогай безпрацоўных Гомельская акрстрахкаса ідзе на чацьвертым месцы, маючы каэфіцыэнт 8,7 супроць сярэдняга па Беларусі 7,7.

Бюджэт Гомельскае акрстрахкасы за 27-28 г. характарызуецца наступным. Усяго паступленьняў Р. 2.829.161—81, прыбыткі мясцовага фонду страхкас складалі Р. 1.755.135—92, выдаткі—1.746.836—53 альбо 99,53% прыбыткаў. Апэрацыі за год закончыліся з астаткам Р. 8.299—39.



Але з прычыны вынятка сродкаў, вытваранага Галоўсацстрахам на выдачу ў цэнтралізаваным парадку сум на працоўную дапамогу і маючагася да пачатку году дэфіцыту ў 21.841—36—стан мясцовага фонду Гомельскай Акрстрахкасы на I-X—28 г. складае Р. 43.541—97 перавыдаткаў, які поўнасьцю рэзэрваны маючымся на месцы астаткам непераведзеных у Рэспубліканскі фонд сум.

Бяздэфіцытнасьць Гомельскай Акрстрахкасы на працягу 27-28 г. тлумачыцца, галоўным чынам, пораўнальна памысным становішчам сярэдняга страхавога тарыфу (13,08 супроць 12,44 сярэдн. рэсп.) і большменш здавальняючай інтэнсыўнасьцю спагнаньня страховых узносаў. Патрабуе значнага зьніжэньня паказальнікі па часовай непрацаздольнасьці (1046 супроць 915,6) і па беспрацоўю—(8,7 супроць 7,7). У гэтай галіне страхкасе патрэбна будзе значна ўзмацніць сваю работу.

## Віцебская Акрстрахкаса.

Як па ліку застрахаваных, так і па разьмеры сярэдняй месячнай зарплаты Віцебская акрстрахкаса стаіць на 3-м месцы.

Лік застрахаваных па Віцебскай акрстрахкасе складае 24470, сярэднямесячная зарплата—56,02 і сярэдні страхавы тарыф—13,60.

Фінансавую работу магчыма ілюстраваць наступнымі справаздачнымі данымі за 27-28 г.

Разрахункавыя ведамасьці прадстаўляюцца акуратна ў сярэднім на 87,5% застрахаваных, фонд выплачанай зарплаты ахоплен праверкай на 20%. Інтэнсыўнасьць спагнаньня: па асноўным узносам—105,4, па пені—47,7%. У выніку праверкі зарплаты кантрольным апаратам выкрыта захованай ад страхналічэньняў зарплаты—Р. 207.370, што складае 6,3% да агульнай сумы праверанай зарплаты.

Калі інтэнсыўнасьць спагнаньня можна лічыць здавальняючай, ня лічучы значнага недахопу па пені, дык вынікі работы па праверцы страхавацеляў трэба лічыць нездавальняючымі, бо пры 20% праверанай зарплаты Віцебская Акрстрахкаса знаходзіцца ў адносіне кантрольнае работы на перадапошнім месцы (пасьля Магілева—19,7).

Пераходзячы да паказальнікаў страхавой дапамогі, трэба адзначыць, што Віцебская акрстрахкаса мае па ўсіх асноўных відах страхаваньня паказальнікі, правышаючыя сярэдня-рэспубліканскія. Так па часовай непрацаздольнасьці—1010,4 дня на 100 застрахаваных у год супроць 915,6 (сярэдн. па рэспубліцы), па інваліднасьці—9,9 супроць 7,4 і па беспрацоўю 8,8 супроць 7,7.

Напружанасьць бюджэту некалькі зьмягчалася наяўнасьцю параўнальна-высокага тарыфу ўзносаў—13,6 супроць сярэдня-рэспубліканскага—12,44.

Дзякуючы гэтаму і здавальняючай інтэсыўнасьці спагнаньня, бюджэт Віцебскай Акрстрахкасы, па ступені сваёй дэфіцытнасьці стаіць на 3 месцы пасьля Менску і Магілеву.

Цыфравыя даныя ілюстрыруюць бюджэт Віцебскай страхкасы наступным чынам:

Валавы прыбытак за 1927-28 г. складае Р. 2.589.554—92.

Паступіла ў фонд страхкасы Р. 1.581.497—16, выдаткавана Р. 1.664.088—28 к., якія складалі 105,22% прыбыткаў. Дэфіцыт за год дасягае 82.591—12.

На працягу году Віцебскай акрстрахкасе адпушчана ў датацыю наяўнымі сродкамі 27.000 р. і пакідаліся адлучэньні ў рэспубліканскі фонд сацстраху ў суме 278.756 р.

Уключаючы Р. 142.270—35 к. перавыдатку да пачатку 1927-28 г., Віцебская Акрстрахкаса мае на І-Х—28 г. фондавы перавыдатак Р. 197.861—47 к. Астача-ж неперaведзеных Галоўсацстраху сум па рэспубліканскаму фонду сацстраху на 140% пакрывае яе фондавы дэфіцыт на І-Х—28 г.

У заключэньне трэба адзначыць значнае павышэньне сталасьці бюджэту Віцебскае Акрстрахкасы. За апошнія 3 гады мы маем наступныя паказальнікі дэфіцыту Віцебскае Акрстрахкасы: у 25-26 г. выдаткі складалі ў адносіне да прыбыткаў 137,56%, 26-27 г.—119,2%, у 27-28 г.—105,22%. Абсалютныя сумы дэфіцыту за гэтыя 3 гады адпаведна—379.000, 238.000 і 82.000. Па ступені дэфіцытнасьці Віцебская каса стаяла: у 25-26 г.—на першым месцы, а ў 27-28 г.—трэцьцім месцы (пасьля Менску і Магілеву).

Адным з галоўных фактараў, дзякуючы якому значна ўзмацніўся бюджэт Віцебскае Акрстрахкасы, належыць лічыць: 1) падвышэньне інтэнсыўнасьці спагнаньня. Запазычанасьць страхавацеляў на І-Х—28 г. складае 40% сярэдня-месячнага налічэньня, які каэфіцыэнт вышыні запазычанасьці зьяўляецца другім (пасьля Менску) пры сярэднім па Беларусі—55,8% і 2) параўнальна высокі сярэдні тарыф.

Неадкладнай задачай далейшай работы Віцебскай касы зьяўляецца работа па рашучаму зьніжэньню паказальнікаў страхавога забясьпечаньня па часовай непрацаздольнасьці і беспрацоўю і значнае ўзмацненьне работы кантрольнага апарату.

## Бабруйская Акрстрахкаса.

Знаходзячыся на 4 месцы па ліку застрахаваных—22.917, Бабруйская акрстрахкаса вызначаецца найменшай вышынёй сярэдня-месячнай зарплаты застрахаванага, менавіта: 44 р. 98 к. пры сярэдняй па рэспубліцы—54—12 страхавы тарыф складае 12,45% і знаходзіцца амальшто на ўзроўні агульна-сярэдняга па рэспубліцы тарыфу.

Тыя паказальнікі, якія ілюстрыруюць вынікі фінансавае работы Бабруйскае акрстрахкасы на працягу справаздачнага году, зьяўляюцца нездавальняючымі па двум вучасткам работы: па прадстаўленьні страхавацелямі разрахункавых ведамасьцяў і па праверцы кантрольным апаратам правільнасьці паказаных у іх сум зарплаты. Бабруйская страхкаса аслабіла ў 27-28 г. нацiск на страхавацеляў і замест далейшага павялічэньня процанта прадстаўленьня ім ведаў аб выплачанай зарплаце маецца зьніжэньне гэтага процанту з 81,7 у 26-27 г. да 79,7 у 27-28 г., што паставіла гэту касу на самае апошняе месца па гэтаму паказальніку.

Фонд выплачанай па акрузе зарплаты за 27-28 г. абхоплен праверкай на 21,4%, г. зн. ніжэй сярэдня-рэспубліканскага процанта праверкі зарплаты.

Агульны процант інтэнсыўнасьці спагнаньня магчыма адзначыць здавальняючым—105,3. Процант фактычнага спагнаньня налічанай пені 66,0 (больш сярэдня-рэспубліканскага).

Бязумоўна здавальняючымі трэба прызнаць па Бабруйскай акрузе каэфіцыэнты па ўсіх галоўных відах страхаваньня. Так, лік аплачаных дзён па часовай непрацаздольнасьці складае 867,6, лік пэнсіянераў на 100 застрахаваных—5,7 і беспрацоўных—5,2.

Незалежна ад сацыяльна страхавых прычын, вынікам якіх зьяўляюцца паказаныя вышэй каэфіцыэнты апэрацыйных выдаткаў па Бабруйскае акрстрахкасе іх несумненым фінансавым эфэктам зьяўляецца ўстойчывасьць бюджэту Бабруйскае акрстрахкасы.

Існуючы ўзровень страхавых каэфіцыэнтаў побач з непаніжаным супроць сярэдня-рэспубліканскага тарыфам узносаў і павышаным % спагнаньня, забясьпечыў ня толькі бяздэфіцытнасьць бюджэту Бабруйскай страхкасы, але выкананьне яго за 27-28 г. з астачай Р. 110.831—68.

Абсалютныя цыфравыя даныя фінансавай справаздачнасьці характарызуюць бюджэт Бабруйскай Акрстрахкасы за 27-28 г. наступным чынам.

Усяго паступіла Р. 1.777.001—55, з іх у фонд страхкасы Р. 1.115.672—67. Выдаткі па мясцоваму фонду страхкасы складалі Р. 1.004.840—99, альбо 90,07% прыбыткаў. Апэрацыі за год збалянсаваны з астачай у 110.831—68 к.

У парадку перасоўваньня сродкаў паміж акрстрахкасамі і на патрэбы цэнтралізаванага водпуску сум на працоўную дапамогу Галоўсацстрахам вытвараны на працягу году вынятак сродкаў свабоднай наяўнасьці Бабруйскае Акрстрахкасы. Усяго за год пераведзена ў Рэспубліканскі Фонд сацстраху 115.000 р., альбо на 4.000 больш, чым астатак па бюджэту касы за 27-28 г. Па балянсу на 1 кастрычніка 1928 г. маецца 36.757 р. 20 кап. астачы, што складае запас, роўны 11-дзёнае патрэбнасьці данае касы.

### Магілеўская акрстрахкаса.

Па справаздачных даных за 27-28 г. лік застрахованых складаў 18.848 чал., сярэдня-месячная зарплата—51 р. 04 к. і сярэдні тарыф узносу—11 р. 72 к.

Апошні паказальнік зьяўляецца паніжаным супроць сярэдняга па Беларусі—12,44.

Для характарыстыкі работы гэтае касы ў галіне спагнаньня трэба застанавіцца на некаторых асноўных момантах.

У 26-27 г. Магілеўская акрстрахкаса, па проценту акуратнага прадстаўленьня разрахункавых ве́дамасьцяй стаяла на апошнім месцы, атрымоўваючы іх ў тэрмін толькі на 76,7 застрахаваных. Даныя 27-28 г. паказваюць узрост гэтага паказальніка да 80,7 %. Але яна яшчэ значна адстае ня толькі ад акруг з найбольш высокім процантам акуратнага прадстаўленьня разрахункавых ведамасьцяў, але і ад сярэдняга па Беларусі проценту—85,1.

Магілеў таксама вызначаецца найменшым абхопам фонду выплачанае зарплаты кантрольнай праверкай. Усяго праверана 19,7 % фонду зарплаты пры сярэднім па Беларусі—30,7 %.

Агульная інтэнсыўнасьць спагнаньня складае 104,0 да бягучых налічэньняў па фонду зарплаты 27-28 г. Спаганьне налічанае пені адзначаецца паказальнікам—43,4. Не спагнана 56,6 налічанае пені.

У адносіне асноўных каэфіцыэнтаў страхавое рызыкі канстатуем па Магілеўскай Акрстрахкасе *найвышэйшы паказальнік інвалідызацыі.* Пры сярэднім па Беларусі ліку пэнсіянэраў на 100 застрахаваных—7,4 мы маем па Магілеўскай акрузе 10,2 пэнсіянэраў на 100 застрахаваных, што, прымаючы пад ўвагу непрамысловы характар Магілеўскай акругі, зьяўляецца яўна ненармальным.

Па ліку аплачаных дзён часовай няпрацаздольнасьці на 100 застрахаваных у год Магілеўская Акрстрахкаса ў адпаведнасьці з непрамысловым характарам Магілеўскае акругі, дае самы нізкі паказальнік—711,6 супроць сярэдняга на Беларусі—915,6. Па выдатках на забясьпечаньне па беспрацоўю маючыйся па Магілеўскай акрузе паказальнік ліку беспрацоўных на 100 застрахаваных 4,7 таксама менш сярэдня-рэспубліканскага.

Фінансавыя апэрацыі 27-28 г. вызначылі наступны характар бюджэту Магілеўскай акрстрахкасы.

З агульнае сумы ўсіх паступленьняў Р. 1.524.943—86 у фонд страхкасы залічана было Р. 936.482—91 кап. Выдаткована за 1927-28 г. Р. 1.002.925—62, альбо 107,1% у адносіне да прыбытку.

Апэрацыі 1927-28 г. Магілеўская страхкаса кончыла з дэфіцытам Р. 166.442—71 кап.

Па ступені сваей дэфіцытнасьці—107,1, Магілеўская акрстрахкаса стаіць на другім месцы.

Аналізіруючы прычыны дэфіцытнасьці бюджэту Магілеўскай акрстрахкасы, трэба адзначыць наступнае. Аб'ектыўных прычын, апраўдваючых дэфіцыт Магілеўскае акрстрахкасы, няма. Паказальнікі, якія зьяўляюцца прычынамі дэфіцытнасьці гэтае касы, заключаюцца ў узроўні сярэдняга страхавога тарыфу і падвышаным проценту інвалідызацыі і недастатковай інтэнсыўнасьці фінансавае працы касы, у прыватнасьці ў галіне сваечасовага атрыманьня разрахункавых ведамасьцяў і кантрольнае работы.

Падмацаваньне Галоўсацстрахам фонду Магілеўскае акрстрахкасы дзеля забясьпечаньня бесьперабойнага абслугоўваньня застрахаваных вытваралася шляхам пакіданьня ёй належачых да пераводу ў рэспубліканскія фонды сум. Астатак гэтых сум складзе на 1 кастрычніка 1928 г. Р. 189.362—55 к., што рэзэрвуе пакрыцьце дэфіцыту касы на 77%. Ступень дэфіцытнасьці Магілеўскае акрстрахкасы ў параўнаньні з 26-27 г. значна паменшылася—з 113,2% да 107,1%, а па абсалютнай суме з Р. 86.637—22 у 26-27 г. да Р. 66.442—71 у 27-28 г.

**Аршанская Акрстрахкаса.**

Пры сярэдня-гадавым ліку застрахаваных 12.848 чал., які ставіць Аршанскую Акрстрахкасу на шостае месца, сярэдня-месячная зарплата застрахаванага дасягала 57 р. 55 к.

Сярэдні тарыф узносаў—12 р. 28 к. некалькі ніжэй, чым сярэдні па Беларусі (12 р. 44 к.).

Работа па спагнаньні характарызуецца наступным: % акуратнага прадстаўленьня разрахункавых ведамасьцяў—92,0 альбо другі пасьля Барысаву. Праверана 29,3% усяго фонду зарплаты і выяўлена захаваных сум 253.000 р., што складае 9,7% праверaных сум супроць сярэдніх па Беларусі 6,1.

Вельмі непамысным трэба лічыць паказальнік інтэнсыўнасьці спагнаньня. Сума спагнаных за 27-28 г. узносаў, па параўнаньні з агульным аб'ёмам налічэньняў па фонду зарплаты гэтага году складае толькі 90%. Пры дапушчэньні, нават, якой-небудзь пагрэшнасьці у статыстычным вылічэньні фонду зарплаты па Аршанскай акрузе, усе-ж-а няма ніякіх сумненьняў наконт таго, што процант спагнаньня па гэтай касе ніжэй, чым па усіх астатніх акругах, бо гэткі жа нізкі процант спагнаньня атрымаецца пры вылічэньні яго, выходзячы з фактычна налічаных па рахунку страхавацеляў (па бухгальтарскіх кнігах) сум.

Лічачы ступень інтэнсыўнасьці спагнаньня адным з галоўных паказальнікаў якасьці фінансавае работы, трэба адзначыць апошнюю па Аршанскай акрстрахкасе вельмі нездавальняючай.

Аснаўныя страхавыя паказальнікі па апэрацыйных выдатках таксама рознахарактарны па свайму уплыву на роўнавагу бюджэту гэтае акрстрахкасы.

Па ліку аплачаных дзён па часовай непрацаздольнасьці на 100 застрахаваных у год—816 і па ліку забясьпечваемых беспрацоўных на 100 застрахаваных у год—6,4—паказальнікі Аршанскае акрстрахкасы некалькі

ніжэй сярэдня-рэспубліканскіх. Але яна значна высоўваецца наперад па ступені інвалідызацыі застрахаванай масы. Маючы 9,0 пэнсіянэраў на 100 застрахаваных, Аршанская акрстрахкаса па насычальнасьці інваліднае масай стаіць на трэцім месцы, уступаючы толькі двум касам—Магілеў (10,2) і Віцебску (9,9).

Бюджэт Аршанскай акрстрахкасы адносіцца да ліку дэфіцытных. З паступіўшых за 27-28 г. 1053.652 р. 16 к. у фонд страхкасы залічана 656.165 р. 14 кап., між тым выдаткі складалі 672.014 р. 70 к., альбо 102,42% прыбыткаў. Апэрацыі за 27-28 г. скончаны з дэфіцытам 15.849 р. 56 к.

З прычыны рознахарактарнасьці прыбытковых і выдатковых паказальнікаў пытаньне аб прычынах дэфіцытнасьці зьяўляецца ў адносіне Аршанскай страхкасы больш складаным. Але незалежна ад наяўнасьці другіх прычын (параўнальна вялікі лік пэнсіянэраў, паніжаны супроць сярэдняга па Беларусі тарыф узносаў)—самай галоўнай прычынай дэфіцытнасьці на працягу 27-28 г. трэба лічыць недабор узносаў, які прыблізна дасягае 115.000.

Правільнасьць гэтага вызначэньня даказваецца тым, што памяньшэньне прыбытковай часткі сьледам паніжанага тарыфу на 8.000 р. і павялічэньне выдаткаў, сьледам павышанага каэфіцыэнту па інваліднасьці на 40.000 р. амаль-што поўнасьцю кампэнсуецца паніжаным паказальнікам па часовай непрацаздолнасьці і беспрацоўю, якія далі эканомію 43.000 р. Між тым, ступень дэфіцытнасьці Аршанскай акрстрахкасы—102,42 больш сярэдняе дэфіцытнасьці мясцовага фонду страхкас у агульна-рэспубліканскім маштабе (101,76).

### Полацкая акрстрахкаса.

Па ліку застрахаваных—10.005 чал. Полацкая акрстрахкаса стаіць упрадзе толькі двух кас—Мазыра (8.881) і Барысава (7.380). Сярэднямесячная зарплата па Полацкай акрузе—52 р. 13 к.

Полацкая акрстрахкаса вылучаецца найменшым сярэднім страхавым тарыфам 10,21 пры сярэднім па Беларусі 12,44.

Акуратнасьць прадстаўленьня разрахунковых ведамасьцяў складае 84,8% і зьяўляецца ніжэй сярэдня-рэспубліканскага (85,1).

Кантрольная работа характарызуецца абхопам 29,6% фонду зарплаты—ніжэй, чым сярэдня-рэспубліканскі процант праверкі выплачанай зарплаты. Выяўлена захаваных сум зарплаты 88.713 р., што складае 4,8% у адносіне да сум зарплаты, якія абхоплены праверкай.

Сума паступіўшых за год ўзносаў складае 107,8% бягучых налічэньняў па фонду зарплаты справаздачнага году.

Процант спагнанай пені паніжаны—з 37,4 супроць сярэдняга па Беларусі (44,8).

Сума запазычнасьці на 1 кастрычніка 1928 г. складае 61.000 р., альбо амаль-што раўняецца (99,4%) сярэдня-месячнай суме прылічваючыхся бягучых узносаў. Наяўнасьць такой вялікай запазычнасьці пры параўнальна высокім процанце інтэнсыўнасьці спагнаньня (107,8) тлумачыцца тым, што да пачатку году Полацкая акрстрахкаса мела вельмі значную запазычнасьць, менавіта: Р. 76.000 альбо 165% сярэднямесячнага налічэньня у 26-27 г. Гэта сума запазычнасьці да канца 27-28 г. паменшылася на 16.000 р., але яна зьяўляецца вельмі вялікай у параўнаньні з аб'ёмам налічваемых сум па Полацкай акрстрахкасе.

У адносіне ўзроўня аснаўных паказальнікаў страхавой рызыкі, Полацкая каса адзначана наступнымі цыфрамі: лік аплачаных дзён па часовай непрацаздольнасьці складае 816,0 на 100 застрахаваных у год.

На самым апошнім месцы Полацкая каса фігуруе сваёй удзельнай вагой па выдатках на забясьпечаньне па беспрацоўю. На 100 застрахаваных прыходзіцца 3,1 беспрацоўных (забясьпечваемых дапамогай). Гэты паказальнік Полацкай акрстрахкасы больш, чым у два разы ніжэй сярэдня-рэспубліканскага каэфіцыэнту забясьпечаньня па беспрацоўю (7,7), што, улічваючы непрамысловы характар Полацкай акругі, зьяўляецца зусім нармальным.

Таксама паніжаным супроць сярэдня-рэспубліканскага зьяўляецца лік пэнсыянэраў на 100 застрахаваных па Полацкай акрстрахкасе—5,8 супроць 7,4, але ён не зьяўляецца самым меньшым, а ідзе ўперадзі паказальнікаў інвалідызацыі па Бабруйскай (5,7) і Мазырскай касе (4,5).

Такім чынам, Полацкая акрстрахкаса побач з найменшым страхавым тарыфам, мае сільна паніжаныя паказальнікі па страхавой рызыцы.

На падставе пералічаных вышэй аснаўных паказальнікаў прыбытковай і выдатковай часткі, бюджэт Полацкай акрстрахкасы набыў наступны характар.

Усяго паступіла прыбыткаў за 27-28 г. Р. 726.269—21 з якіх у мясцовы фонд страхкас пералічана было Р. 445.990—43. Выдаткі складалі Р. 401.094—85 і бюджэт Полацкай акрстрахкасы такім чынам збалянсаваны з астаткам Р.44.895—58. Выдаткі Полацкай акрстрахкасы складалі 89,93% прыбыткаў.

Астача па бюджэту Полацкай акрстрахкасы за 27-28 г. зварочана была на пакрыцьце маючагася да пачатку гэтага году дэфіцыту Р. 17.144—04. За вылікам Р. 10.900—вынятых Галоўсацстрахам на патрэбы цэнтралізаванага водпуску сродкаў на працоўную дапамогу, Полацкая каса мае на 1 кастрычніка 1928 г. астачу ўласных сродкаў у разьмеры 16.851 р. 54 к., якія складаюць запас роўны 12-дзённае патрэбнасьці гэтае касы.

Чарговай задачай Полацкае Акрстрахкасы зьяўляецца узмацненьне работы па атрыманьні разруханкавых ведамасьцяў і ліквідацыі запазычнасьці па страхавых узносах.

### Мазырская акрстрахкаса.

Як па ліку застрахаваных, так і па ўзроўню сярэдня-месячнае зарплаты Мазырская акрстрахкаса знаходзіцца на прадапошнім месцы. Абсалютныя даныя наступныя: сярэдня-гадавы лік застрахаваных—8.881 чал., сярэдня-месячная зарплата—47 р. 88 к.

Таксама прадапошняй яна зьяўляецца па сярэдняму тарыфу ўзносаў, складаўшаму ў 27-28 г. 11,19%.

Па ступені акуратнасьці прадстаўленьня разрахункавых ведамасьцяў Мазырская каса ў справаздачных даных на 27-28 г. фігуруе паказальнікам 85,0, які раўняецца сярэдняму па рэспубліцы проценту.

У адносіне праверкі фонда выплачанай па акрузе зарплаты Мазырская акрстрахкаса вылучаецца найвышэйшым процантам абхопу, менавіта—64,1 пры сярэднім па Беларусі 30,7. Праверана 3.272.000 р. выплачанай зарплаты. Выяўлена 182.000 р. захаванае ад страхналічэньняў зарплаты, што складае 5,6% да праверанай зарплаты.

Агульная сума паступленьняў у параўнаньні з ітогам бягучых налічэньняў па фонду зарплаты за 27-28 г. складае 114,5%, у той жа час процант спагнаньня прылічваючыхся сум пені—найменьшы, менавіта 29,2 пры сярэднім па Беларусі 44,8.

Незалежна ад параўнальна высокага проценту, якім характарызуецца агульная інтэнсыўнасьць спагнаньня, мы бачым па балянсу

Мазырскае Акрстрахкасы на 1 кастрычніка 1928 г. значную запазычнасьць, менавіта Р. 69.569—49, складаючых 117,9% сярэдня-месячнага налічэньня бягучых узносаў у 27-28 г.

Гэта акалічнасьць тлумачыцца тым, што: 1) агульная сума ўзносаў па выяўленай захаванай зарплаце складае прапарцыянальна аб'ёму прылічваючыхся па Мазыру сум значны процант, а менавіта 3,5 пры сярэднім па Беларусі—1,8 і, такім чынам, па рахунках страхавацеляў на працягу 27-28 г. налічана дзеля спагнаньня значна большая сума, чым сума бягучых узносаў па фонду зарплаты 27-28 г. і 2) на 1 кастрычніка 27 г. па Мазырскай акрстрахкасе таксама была прапарцыянальна больш буйная запазычнасьць, чым па другіх акругах, якая складала 164,7% сярэдня-месячнага налічэньня супроць 91,3%—у сярэднім па Беларусі (на 1/X-27 г.).

Паказанымі вышэй двумя прычынамі тлумачыцца тое, што незалежна ад высокага проценту агульнае інтэсыўнасьці спагнаньня, які выяўляецца параўнаньнем паступіўшай за год сумы з ітогам бягучых налічэньняў за гэты жа год па гадавому фонду зарплаты,—балянсавая астача запазычнасьці на 1/X-28 г. яшчэ застаецца ў вялікай суме, паменшыўся толькі на 5.000 р. супроць 1/X-27 г.

Аснаўныя каэфіцыэнты, вызначыўшыя абсалютныя і адносныя разьмеры выдаткозай часткі бюджэту Мазырскае акрстрахкасы, маюць наступнае выражэньне.

Па ліку аплачваемых дзён часовае непрацаздольнасьці на 100 застрахаваных у год—883,2 Мазырская каса стаіць на ўзроўні ніжэй сярэдня-рэспубліканскага (915,6).

Па ступені інвалідызацыі застрахаванай масы Мазыр стаіць на апошнім месцы з паказальнікам 4,5.

Лік забясьпечаных дапамогай беспрацоўных складае 5,2 чал. на 100 застрахаваных, г. зн. менш, чым у сярэднім па Беларусі.

Уся сума прыбыткаў па Мазырскай акрстрахкасе складала ў 27-28 г.. 717.207 р. 51 к. Прыбыткі мясцовага фонду страхкасы 448.550 р. 86 к. пры выдатку ў 390.722 р. 49 к. бюджэт гэтае касы выкананы з астачай 57.828 р. 07 к.

За вылікамі пералічаных у рэспубліканскі фонд 15.000 р. на патрэбы цэнтралізаванага водпуску сродкаў на працоўную дапамогу беспрацоўным, Мазырская акрстрахкаса мае на 1 кастрычніка 1928 г. астачу па фонду страхкасы 45.767 р. 67 к., якая складае 35-дзённы рэзэрв уласных сродкаў.

Ня гледзячы на гэты, трэба прызначыць, зусім ненармальным налічча гэткай вялікай запазычнасьці з боку страхавацеляў. На зьнішчэньне гэтага недахопу Мазырскай акрстрахкасе неабходна зьвярнуць увагу ў бліжэйшы час.

### Барысаўская каса.

Шэраг асаблівасьцяў, якія адрозьніваюць Барысаўскую страхкасу ад астатніх страхкас Беларусі, выцякае з тэй акалічнасьці, што Барысаўская страхкаса зьяўляецца не акруговай, а раённа-гарадзкой. Пры гэтым лік застрахаваных, жыхарствуючых у вясковых мясцовасьцях, складае ня больш 1,2 проц. (па Беларусі у сярэднім 40 проц).

Прамысловы характар гор. Барысава, усугублены адсутнасьцю раеннага кантынгенту застрахаваных, звычайна разрэджваючага напружанасьць страхавой рызыкі, сільна паніжаючы агульна-акруговыя каэфіцыэнты па параўнаньні з абасоблена ўзятымі гарадзкімі,—зьяўляецца прычынай рэзкіх разрываў, існуючых паміж сярэдня-рэспубліканскімі і Барысаўскімі паказальнікамі.

Сярэдня-гадавы лік застрахаваных па Барысаву складаў 7.380 чалавек пры сярэдня-месячнай зарплаце 53 р. 42 к. Узровень апошняй ніжэй сярэдня-рэспубліканскага—(54 р. 12 к.). Гэта знаходзіць тлумачэньне у тым, што зарплата па бюджэтных установах гор. Барысава прыраўнена да ставак раеннага, а не акругована цэнтру.

Сярэдні тарыф узносаў па Барысаву ўжо ілюструе наяўнасьць памяненых вышэй асаблівасьцяў у паказальніках па Барысаўскай страхкасе. Ён ровен 14,25, зьяўляючыся найвышэйшым пры сярэдня-рэспубліканскім 12,44.

Таксама гаворыць аб асаблівасьцях Барысаўскіх каэфіцыэнтаў паказальнікі па часовай непрацаздольнасьці і па беспрацоўю.

Першы складае 1267,2 аплачаных дзён на 100 застрахаваных у год пры сярэднім па Беларусі паказальніку—915,6 і мінімуме 711,6 (Магілёў). Асабліва падкрэсьліваецца характэрнасьць Барысаўскіх паказальнікаў часовай непрацаздольнасьці, калі дадаць, што акругі з найбольш высокімі каэфіцыэнтамі па гэтаму віду страхаваньня, як Гомель і Віцебск (1046,4 і 1010,4) значна адстаюць ад Барысава. Апошняя акалічнасьць з найбольшай яскравасьцю гаворыць аб абасоблена гарадзкім характары каэфіцыэнтаў, які зьяўляецца вынікам адсутнасьці раённага кантынгэнту застрахаваных.

Паказальнік, падцьвярджаючы паказанае адносна асаблівасьцяў каэфіцыэнтаў Барысаўскае касы, маецца таксама і ў галіне забясьпечаньня па беспрацоўю. Лік знаходзячыхся на дапамозе беспрацоўных складае 11,4 на кожныя 100 застрахаванных пры сярэдня-рэспубліканскім—7,7.

Выключэньнем зьяўляецца, быццам, паказальнік інвалідызацыі. Лік пэнсыянэраў на кожныя 100 застрахаваных складае па Барысаўскай страхкасе 6,4 і ня толькі не зьяўляючыся павышаным, а нават ніжэй сярэдняга па Беларусі—7,4.

Зьвярнуўшыся да якасных паказальнікаў фінансавае работы Барысаўскай касы, адзначаем наступнае. Разрахункавыя ведамасьці прадстаўляюцца акуратна на 93.5 проц. застрахаваных, пры сярэдня-рэспубліканскім 85,1 проц. У галіне праверкі страхавацеляў канстатуем абхоп фонду зарплаты на 49,3 проц., пры сярэдня-рэспубліканскім 30,7.

Але эфэктыўнасьць кантрольнае работы па сваіх рэальных выніках, г. зн. суме выяўленай захаванае зарплаты, вельмі слабая. Так, сума выяўленай пры праверцы захаванае зарплаты складае 1,7 проц. да сумы зарплаты, якая была праверана, пры сярэднім па Беларусі 6,1. Гэты паказальнік гаворыць аб тэй увазе, якую заслужываюць пытаньні аб якасьці кантрольнае работы.

Агульная інтэнсыўнасьць спагнаньня складае 108,9 проц. у адносіне да гадавога налічэньня прылічваючыхся сум па фонду зарплату 27-28 г. Процант спагнаньня пені параўнальна здавальняючы—80 проц. пры сярэднім па Беларусі—44,8.

Сума страхавой запазычнасьці складае на 1/X—28 г. Р. 65.107—36 к., альбо 45,7 проц. сярэдня-месячнага налічэньня прылічваючыхся сум.

Дзякуючы высокаму сярэдняму тарыфу узносаў—14,25 (пры сярэднім па Беларусі 12,44) і здавальняючай інтэнсыўнасьці спагнаньня—108,9 (пры сярэдня-рэспубліканскім 102,56) бюджэт Барысаўскай страхкасы бездэфіцытны, ня гледзячы на надзвычайна высокія паказальнікі забясьпечаньня па часовай непрацаздольнасьці і беспрацоўю.

З паступіўшых за справаздачны год Р. 781.938—52 прыбытак фонду страхкасы складаў 478.934 р. 56 к. Выдаткавана Р. 469.992—77 к., альбо 98,13 прыбыткаў.

Астача па фонду Барысаўскай касы на 1 кастрычніка 1928 г. складае 49.497 р. 05 к. і паменшылася супроць 1-Х—27 г. на 6000 р., у віду вынятку Галоўсацстрахам на працягу 27—28 г. 15.000 р. у рэспубліканскі фонд сацстраху на патрэбы цэнтралізаванага водпуску сум на працоўную дапамогу беспрацоўным.

Фондавы астатак па Барысаўскаў касе на 1 кастрычніка 1928 г. складае запас уласных сродкаў у разьмеры 30-дзеннае патрэбнасьці касы.

Ня гледзячы на тое, што бюджэт Барысаўскай касы закончан з астачай, яго усе-жа трэба лічыць ня зусім здавальняючым, бо ні у якім разе нельга прызнаць нармальным тыя павышаныя каэфіцыэнты па часовай непрацаздольнасьці і беспрацоўю, якія вылучаны ў Барысаўскай касе. Упартая работа па рашучаму зьнішчэньні іх павінна зьявіцца бліжэйшай задачай Барысаўскай страхкасы.

## Заключэньне.

У заключэньне гэтае кароткае характэрыстыкі бюджэту акруговых страхкас трэба адзначыць, што натугамі усіх страхавых органаў Беларусі на працягу зышоўшага году, накіраванымі да максымальнага павышэньня інтэнсыўнасьці спагнаньня прылічваючыхся страхавых плацяжоў, удалося у значнаў ступені аслабіць напружанасьць фінансавага становішча. У выніку гэтага бюджэт 27-28 г. выкананы з дэфіцытам Р. 134.000 замест здагадных Р. 340.000, а агульны да канца году перавыдатак замест Р. 558.000 складае Р. 296.000.

Як адмоўны факт, трэба адзначыць, што маючаяся па балянсу на 1 кастрычніка 1928 г. сума запазычнасьці, значна большая, чым меркаваная бюджэтам, выходзячы з запраэктаванага проценту спагнаньня.

Перад страхавымі органамі Беларусі стаіць цяпер важная задача— поўнага 100% спагнаньня у 28-29, як усей сумы бягучых налічэньняў, так і ўсей астачы запазычнасьці па балянсу на 1 кастрычніка 1928 г., якая пераходзіць павышанай супроць унесянай у бюджэт 28-29 году сумы запазычнасьці мінулых гадоў.

Асабліва яскравым зьяўляецца малюнак зьмены характару бюджэтаў паасобных кас, які паказвае памяншэньне ліку дэфіцытных кас роўналегла з паніжэньнем ступэні дэфіцытнасьці тых з іх, якія засталіся дэфіцытнымі, і што асабліва важна—гэта пераход некаторых кас з катэгорыі дэфіцытных на палажэньне памысных.

Паказанае яскрава ілюструецца наступнай табліцай аб ступені дэфіцытнасьці акруговых страхкас за 25-26-27-28 г.г.

| АКРУГА | Выдаткі складалі ў %% да прыбыткаў | | |
|---|---|---|---|
| | 25-26 г. | 26-27 г. | 27-28 г. |
| Менская | 110,56 | 110,9 | 110,4 |
| Віцебская | 137,56 | 119,2 | 105,22 |
| Гомельская | н.-зьв. | 101,3 | 99,53 |
| Бабруйская | 100,91 | 101,9 | 90,07 |
| Магілеўская | 112,07 | 113,2 | 107,1 |
| Аршанская | 93,49 | 93,9 | 102,42 |
| Полацкая | 104,43 | 105,7 | 89,93 |
| Мазырская | 107,94 | 103,5 | 87,11 |
| Барысаўская | 93,28 | 90,3 | 98,13 |
| Па фонду страхкас у агульнарэспублік. маштабе | 110,93 | 106,2 | 101,76 |

Няўхільным зьяўляецца падзеньне ступені дэфіцытнасьці мясцовага фонду страхкас у агульна-рэспубліканскім маштабе. Выдаткі складалі у процанце да прыбыткаў: 25-26 г.—110,93, у 26-27 г.—106,2 і у 27-28 г.—104,3 (прыбавіўшы водпуск у цэнтралізаваным парадку сум на працоўную дапамогу).

Па паасобных касах відаць наступнае:

1. Шэраг кас з катэгорыі дэфіцытных перашоў у лік памысных, менавіта: Гомель, Бабруйск, Полоцк і Мазыр.

2. Шэраг кас паменшыў ступень сваей дэфіцытнасьці, менавіта: Віцебск, Магілеў і Менск (апошняя нязначна).

3. Барысаўская каса, застаючыся бяздэфіцытнае, аднак панізіла ступень сваей памыснасьці, паказваючы выдатак за 27-28 г. роўным 98,13% прыбыткаў, замест 90,3% у 26-27 г. (што тлумачыцца тым, што яна рэарганізавана з акруговай у раённа-гарадзкую).

4. Адзіная Аршанская каса з катэгоры памысных (у 25-26 і 26-27 г.)—перайшла у лік дэфіцытных (102,42).

## III. Аналіз выкананьня бюджэту 1927-28 году.

Справаздачныя даныя паказваюць выкананьня бюджэту 27-28 г. у наступным відзе:

| Прыбыткі і выдаткі | Па бюджэту | Выканана | | Супроць бюджэту | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Больш. | | Менш. | | % вык. |
| **А. Па прыбытках.** | | | | | | | | |
| 1 Узносы па агульн. страхаваньні . . | 13.914.497 | 15.398.432 | 93 | 1.483.935 | 93 | — | — | 110,7 |
| 2. Пені . . . | 139.145 | 221.583 | 51 | 82.438 | 51 | — | — | 159,2 |
| 3. Штрафы . . . | 3.000 | 14.276 | — | 11.276 | 48 | — | — | 475,7 |
| 4. Іншыя паступленьні . | 50.000 | 102.161 | 79 | 52.161 | 79 | — | — | 204,3 |
| Усяго . | 14.106.642 | 15.736.454 | 71 | 1.629.812 | 71 | — | — | 111,5 |
| 5. Па страхаваньні на вёсцы . . . | — | 10.643 | 67 | 10.643 | 67 | — | — | — |
| Разам . | 14.106.642 | 15.747.098 | 38 | 1.640 456 | 38 | — | — | 111,6 |
| **За вылікам адлічэньняў.** | | | | | | | | |
| а) у фонд мэддапамогі . | 3.387.230 | 3.418.929 | 64 | 31.699 | 64 | — | — | 100,9 |
| б) у усесаюзн. фонд сацстраху . . . | 495.482 | 511.249 | 11 | 15.767 | 11 | — | — | 103,2 |
| в) у фонд рабоч. жыл. будаўн. . . . | 539.837 | 1.558.344 | 43 | 1.018.507 | 43 | — | — | 288,6 |
| Усяго адлічваецца . | 4.422.549 | 5.488.523 | 18 | 1.065.974 | 18 | — | — | 124,1 |
| Застаецца ў фондах сацстраху Беларусі . | 9.684.093 | 10.258.575 | 20 | 574.482 | 20 | — | — | 105,9 |

| Прыбыткі і выдаткі | Па бюджэту | Выканана | | Супроць бюджэту | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Больш. | | Менш. | | % вык. |
| **Б. Па выдатках.** | | | | | | | | |
| I. Бягучыя выдаткі. | | | | | | | | |
| 1) апэрацыйныя | | | | | | | | |
| а) па час. непрацазд. . | 3.179.249 | 3.356.021 | 30 | 176.772 | 30 | — | — | 105,5 |
| б) па дадатк. відах забясьп. застрах. . | 1.160.780 | 1.070.878 | 95 | — | — | 89.901 | 05 | 92,2 |
| в) на забясьп. па інваліднасьці . . . | 2.389.319 | 2.636.452 | 75 | 247.133 | 75 | — | — | 110,3 |
| г) на забясьп. па беспрац. | 2.047.133 | 2.119.393 | 11 | 72.260 | 11 | — | — | 103,5 |
| д) прафілакт. выдаткі (за кошт уласн. сродкаў) | 358.000 | 361.295 | 69 | 3.295 | 69 | — | — | 101,1 |
| е) утрыманьне органаў урачэбнага контр. . | 80.000 | 96.051 | 52 | 16.051 | 52 | — | — | 120,0 |
| ж) страхасьвета . . | 5 000 | 5.303 | 89 | 303 | 89 | — | — | 106,0 |
| з) утрыманьне інсп. працы | — | 24.959 | 96 | 24.959 | 96 | — | — | — |
| і) іншыя апэрац. выдаткі. | — | 7.842 | 69 | 7.842 | 69 | — | — | — |
| Усяго . . | 9.219.481 | 9.678.199 | 86 | 458.718 | 86 | — | — | 108,0 |
| к) выдаткі па страхаваньні на вёсцы . | — | 278 | 34 | 278 | 34 | — | — | — |
| Усяго апэрац. выдаткаў | 9.219.481 | 9.678.478 | 20 | 458.997 | 20 | — | — | 105,0 |
| 2) Арганізац. выдаткі . | 408.000 | 435.424 | 22 | 27.424 | 22 | — | — | 106,7 |
| 3) Сьпісаньне безнадз. запазыкі і розных страт | — | 12.549 | 14 | 12.549 | 14 | — | — | — |
| Усяго бягуч. выдаткаў | 9.627.481 | 10.126.451 | 56 | 498.970 | 56 | — | — | 105,2 |
| II. Надзвычайныя выдаткі. | | | | | | | | |
| На новае будаўніцтва, капіт. рамонт, абсталяваньне і набыцьцё маемасьці па санат. „Сасноўка" і дамох адпачынку (за кошт уласн. сродкаў) . | 385.000 | 266.721 | 25 | — | — | 118.278 | 75 | 69,3 |
| Разам па выдатках . | 10.012.481 | 10.393.172 | 81 | 380.691 | 81 | — | — | 102,6 |
| **В. Дэфіцыт за год.** | 328.388 | 134.597 | 61 | — | — | 193.790 | 39 | 41,6 |

Для аналізу прычын тых ці іншых адхіленьняў у выкананьні бюджэту, неабходна папярэдняе выяўленьне і параўненьне асноўных бюджэтна-страхавых каэфіцыентаў з паказальнікамі з апраэктаваным бюджэтам:

| ПАКАЗАЛЬНІКІ | Па бюджэту | | Па справаздачах | | % выкананьня |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Сярэдня-гадавы лік застрахаваных | 167.417 | — | 173.446 | — | 103,6 |
| 2. „ месячная зарплата | 51 | 42 | 54 | 12 | 105,2 |
| 3. Сярэдні тарыф узносаў | 13,20 | — | 12,44 | — | — |
| 4. % спагнаньня | 102,03 | — | 102,56 | — | — |
| 5. Лік аплачаных дзён час. непрацаздольнасьці на 100 застрахованых у год | 900 | — | 915,6 | — | 101,7 |
| 6. Лік выдач на уход на 1000 застрахованых у год | 115 | — | 108 | — | 94,3 |
| 7. Лік месяцаў кармленьня на 1000 застрахованых у год | 1021,4 | — | 859,1 | — | 84,1 |
| 8. Лік выдач на пахаваньне | 38,73 | — | 34,8 | — | 89,8 |
| 9. Сярэдні-гадавы лік пэнсіянэраў | 12116 | — | 12864 | — | 106,2 |
| на 100 застрахованых | 7,24 | — | 7,40 | — | — |
| 10. Сярэдні гадавы лік беспрацоўных | 14841 | — | 13391 | — | 90,2 |
| на 100 застрахованых | 8,86 | — | 7,7 | — | — |
| 11. Сярэдні разьмер дапамог і пэнсій | — | — | — | — | — |
| а) сярэдняя дзённая дапамога па часовай непрацаздольнасьці | 2 | 15 | 2 | 12 | 100,5 |
| у %% зарплаты | 98,6 | — | 94,2 | — | — |
| б) сярэдні разьмер дапамогі на прадметы догляду | 17 | 34 | 17 | 39 | 100,3 |
| в) сярэдні разьмер дапамогі на кармленьня | 4 | 44 | 4 | 38 | 98,6 |
| г) сярэдні разьмер дапамогі на пахаваньня | 10 | 44 | 14 | 20 | 136,0 |
| д) сярэдні разьмер месячнай пэнсіі | 15 | 63 | 16 | 90 | 108,1 |
| У % да зарплаты | 30,4 | — | 31,22 | — | — |
| е) сярэдні разьмер месячн. дапамогі па беспрацоўю | 11 | 37 | 11 | 45 | 100,7 |
| у % да зарплаты. | 22,1 | — | 21,2 | — | — |

Раней, чым перайсьці да падрабязнага аналізу прычын усіх адхіленьняў, якія паказваюць справаздачныя даныя аб выкананьні бюджэту 1927-28 г., неабходна адзначыць адзін момант, які датычыцца агульнае сумы паступіўшых узносаў, бо тут мы маем самае вялікае адхіленьня на 1.483.936 руб., альбо 10,7 проц.

Справа ў тым, што па бюджэту, складзенаму на 1927-28 г. сумы мэтавай надбаўкі на рабочае жыльлёвае будаўніцтва, якія паступаюць ад страхавацеляў звыш адлічэньняў, вытвараемых страхкасамі з паступленьняў у фонды сацстраху і мэддапамогі,—не ўваходзяць ні ў прыбытак, ні ў выдатак. Гэта зроблена у адпаведнасьці з існуючай інструкцыяй па складаньні бюджэту. Між тым па гадавых фінансавых справаздачах кас сума паступіўшых узносаў уключае у сабе і мэтавую надбаўку пры адсутнасьці усялякай магчымасьці яе выдзяленьня.

Дзеля выяўленьня ступені фактычнага правышэньня сумы паступіўшых узносаў у параўнаньні з бюджэтнымі меркаваньнямі мы адлічаем з паступіўшай сумы усю налічаную на фонд зарплаты 1927-28 г. мэтавую надбаўку, выходзячы з разьбіўкі гэтага фонду па паасобных стаўках тырыфу.

Уся сума мэтавай надбаўкі за 1927-28 г. складае 1.005.000 (кругла) чаму сума паступіўшых узносаў перавышае бюджэтныя меркаваньні не на 1.484.000, а на 479.000.

Пераходзячы да самага аналізу прычын усіх адхіленьняў, паказваемых справаздачнымі данымі аб выкананьні бюджэту, трэба таксама падкрэсьліць, што ўстанаўленьне фінансавым аналізам прычын адхіленьняў у сумах прыбыткаў і выдаткаў павінна ісьці побач з разьлікам, выяўляючым значымасьць кожнага адхіленьня у страхавых паказальніках дзеля вынікаў фінансавых апэрацый. Толькі у гэтым выпадку будзе яскрава, якія жа з усіх вялікіх і малых адхіленьняў у каэфіцыэнтах мелі большае, альбо меншае фінансавае значэньне дзеля характару бюджэту, выкананьне якога мы аналізуем.

Які фінансавы эфэкт мела па фондах сацстраху Беларусі на выкананьне бюджэту 1927-28 г. кожнае з адхіленьняў у бюджэтна-страхавых паказальніках відаць з наступнага:

| АДХІЛЕНЬНІ У ПАКАЗАЛЬНІКАХ | ФІНАНСАВЫ ЭФЭКТ КОЖНАГА АДХІЛЕНЬНЯ. Зьмяняе разьмер | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Прыбыткаў | | Выдаткаў | |
| | Павялічвае прыбытак | Памяншае прыбытак | Павялічвае выдатак | Памяншае выдатак |
| 1. У сярэдня-гадавым ліку застрахаваных | 349.000 | — | 158.000 | — |
| 2. У сярэдня-месячнай зарплаце | 507.000 | — | 184.000 | — |
| 3. У сярэднім тарыфе | — | 558.000 | — | — |
| 4. „ % спагнаньня | 50.000 | — | — | — |
| 5. „ каэфіцыэнце. захварваемасьці | — | — | 55.000 | — |
| 6. У ліку выдач на догляд на 100 застр. у год | — | — | — | 20.000 |
| 7. У ліку месяч. кармленьня на 100 застр. у год | — | — | — | 121.000 |
| 8. У ліку выдач на пахаваньня на 100 у год | — | — | — | 7.000 |
| 9. У сярэдня-гадавым ліку пэнсыянэраў | — | — | 147.000 | — |
| 10. У сярэдня-гадавым ліку беспрацоўных | — | — | — | 180.000 |
| 11. У суадносіне сярэдняга разьмеру дзеннае дапамогі па час. непрац. | — | — | — | 135.000 |
| 12. У сярэдніх разьмерах дапамог: | | | | |
| а) на ўход | — | — | 1.000 | — |
| б) „ кармленьне | — | — | — | 10.000 |
| в) „ пахаваньне | — | — | 24.000 | — |
| г) месячнае пэнсіі | — | — | 189.000 | — |
| д) месячнай дапамогі па беспрацоўю | — | — | 12.000 | — |
| Агульныя вынікі фінансавага эфэкту паасобных адхіленьняў | 906.000 | 558.000 | 770.000 | 473.000 |

Усе адхіленьні у страхавых паказальніках, якія маюць адбіцьце па разьмерах прыбытковай часткі бюджэту, далі наступны фінансавы эфэкт:

а) па адным адхіленьні—павялічылі прыбытак . . Р. 906.000

б) „ другім „ —паменшылі „ . Р. 558.000

Агульны вынік—павялічэньне прыбыткаў . Р. 348.000

Усе адхіленьні у страхавых паказальніках, якія маюць адбіцьцё на разьмерах выдатковай часткі бюджэту, далі наступны фінансавы эфэкт:

а) па адным адхіленьні—павялічэньне выдаткаў . Р. 770.000

б) „ другім „ —памяншэньне „ . Р. 473.000

Агульны вынік—павялічэньне . . . Р. 297.000

Па прыведзеных вышэй параўнальных даных выкананьня бюджэту у сумарным выражэньні відаць, што:

а) сума прыбыткаў па фонду сацстраху Беларусі павялічылася на Р. 574.000 (кругла);

б) сума выдаткаў па фондах сацстраху Беларусі павялічылася на Р. 380.000.

Павялічэньне прыбытковай часткі, акрамя вылічаных вышэй 348.000 р. тлумачыцца пералічэньнем з фонду мэддапамогі ў фонд сацстраху Р. 263.000, якія складаюць 7,2 проц. адлічэньняў у гэты фонд. За вылікам 26.000, складаючых розьніцу ў паступленьні проц. на капітал (па бюджэту 50, фактычна паступіла 24.000) мы атрымаем розьніцу ў суме прыбыткаў, паказаную у параўнальнай табліцы. Павялічэньне выдатковай часткі, акрамя вылічаных вышэй розьніц па паасобных відах страхаваньня ў выніку адхіленьняў у паказальніках, тлумачыцца тымі розьніцамі паміж фактычна выдаткаванымі сумамі і мяркуемымі па бюджэту, якія маюцца па так называемых цьвёрдых выдатках, менавіта: на працоўную дапамогу беспрацоўным—90.000, аргвыдаткі—27.000 (у сувязі з ростам ліку застрахаваных, фактычная сума перавыдаткаў на аргвыдаткі, выходзячы з пастановы Савнаркому Беларусі аб зьніжэньні каштоўнасьці абслугоўваньня аднаго застрахаванага на 25 проц., складзена не 27.000, а 11.000), на ўрачэбны кантроль—16.000, на інспэкцыі працы (па бюджэту не прадугледжана было) і некаторыя іншыя. У той час па надзвычайных выдатках (новае будаўніцтва, капітальны рамонт і набыцьце маемасьці) маецца эканомія супроць бюджэтнае сумы на 118.000 р.

У заключэньне аналізу выкананьня бюджэту трэба адзначыць, што ў адносіне ўсіх, так называемых, цьвёрдых выдаткаў параўнальныя даныя, прыведзеныя вышэй, не зьяўляюцца канчатковымі, бо па гэтых выдатках неабходзен асобны падрабязны аналіз выкананьня цьвёрдых каштарысаў.

## IV. Плян і Бюджэт Сацыяльнага Страхаваньня Беларусі на 1928-29 г.

Складзены Галоўсацстрахам у верасьні месяцы мінулага году бюджэт на 1928-29 г. быў зацьверджан Рэспубліканскім Саветам Сацыяльнага Страхаваньня 12 верасьня 1928 г. і ўхвален Саветам Народных Камісараў 14 лістапада мінулага году.

У аснову вылічэньня паказальнікаў быў паложан: а) матар'ял аб ліку і зарплаце наймовага пэрсаналу, запраэктыраваны на 28-29 г. і б) фінансава-статыстычныя справаздачныя даныя страхавых органаў Беларусі за апошнія 2-3 гады.

У якасьці асноўнага выхаднога пункту быў паложан 27-28 г., дзеля чаго складзены на гэты год у свой час бюджэт скарэктаваны быў у адпаведнасьці з данымі выкананьня бюджэту 27-28 г. на працягу 9 месяцаў.

Бюджэт на 28-29 г. складзен у прадбачаньні інтэнсыўнага росту кантынгэнту асоб, занятых наймовай працай і пашырэньня абхопу сацстрахаваньнем наймовае працы ў сялянскай гаспадарцы і зацьверджан Саюзным Саветам Сацыяльнага Страхаваньня ў наступным відзе:

### Лік застрахаванай масы і сярэдняя зарплата:

У падставу вылічэньня аснаўных страхавых паказальнікаў (кантынгэнту застрахованых і зарплаты) паложаны разьлікі НКП БССР адносна росту ліку наймовага пэрсаналу і сярэдняе зарплаты.

З агульнай масы наймовага пэрсаналу выключаны:

1. Групы, падлягаючыя страхаваньню транспортных кас (чыгуначнікі і воднікі) і

2. Тыя групы, якія ў сілу надзвычайнай распыленасьці не падаюцца ахопу сацстрахаваньнем (пераменна-падзённыя рабочыя, будаўнікі—адзіночкі, вучнёўства на сяле і частка сплаўшчыкаў лесу і хатніх працаўніц).

Ступень абхопу падлягаючых страхаваньню груп апрадзелена ў наступных разьмерах:

| | 1927-28 г. | | | 1928-29 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік наймов пэрсаналу. | Лік застрахаваных | % абхопу | Лік наймов пэрсаналу | Лік застрахаваных | % абхопу |
| Сельская і лясная гаспадарка (без сялян) | 26.000 | 21.000 | 80,8 | 31.000 | 28.000 | 90,3 |
| Прамысловасьць | 51.000 | 49.000 | 96,1 | 57.000 | 57.000 | 100,0 |
| Будаўніцтва | 20.000 | 17.000 | 85,0 | 28.000 | 25.000 | 89,2 |
| Транспарт (мясц.) | 2.900 | 2.900 | 100,0 | 3.000 | 3.000 | 100,0 |
| Народная сувязь | 2.900 | 2.900 | 100,0 | 3.000 | 3.000 | 100,0 |
| Гандаль | 14.400 | 13.500 | 93,7 | 16.600 | 16.600 | 100,0 |
| Крэдыт | 2.100 | 2.100 | 100,0 | 2.200 | 2.200 | 100,0 |
| Прадпрыемствы | 58.500 | 57.000 | 97,4 | 64.400 | 63.800 | 99,1 |
| Асабістая паслуга | 7.000 | 5.000 | 71,4 | 8.000 | 6.000 | 75,4 |
| Другія галіны працы | 1.600 | 1.600 | 100,0 | 1.800 | 1.800 | 100,0 |
| Усяго | 186.400 | 172.000 | 92,3 | 215.000 | 206.400 | 96,0 |

Справаздачныя даныя за 27-28 г. гавораць аб тым, што кантынгэнт работаючых па найму, ачышчаны ад груп, якія зусім не паддаюцца абхопу сацстрахаваньнем, усе яшчэ не ахоплены поўнасьцю. Па праэктыроўцы на 28-29 г. мяркуецца, што гэты недахоп будзе зьніжаны

| | | 27-28 г. | | 28-29 г. |
|---|---|---|---|---|
| Па групе сельск. і лясн. гасп. (за лік сплаву) | . | з 20 % | да | 10 % |
| „ „ „прамысловасьць" (за лік вучнёўства) | . . | „ 4 „ | „ | 0 „ |
| „ „ „будаўніцтва" (за лік адзіночак) | . . | „ 15 „ | „ | 10 „ |
| Усяго па ўсіх галінах працы | . . | з 7,7 % | да | 4 % |

Дзякуючы пашырэньню абхопу, рост застрахаванай масы ў 28-29 г. некалькі абагнаў рост ліку наймовае працы. У віду таго, што праэктыроўка наймовага пэрсаналу на 1928-29 г. складзена з прадбачаньнем вялікага росту, павялічэньне кантынгэнту застрахаваных у гэтым годзе будзе рэкордным:

Рост ліку застрахаваных:

| | | |
|---|---|---|
| У 1926/27 г. | . . . + | 13, 8 % |
| „ 1927/28 „ | . . . + | 9, 9 % |
| „ 1928/29 „ | . . . + | 19, 1 |

Неабходна адзначыць, што запраэктыраваны вышэй лік застрахаванай масы ня ўключае ў сябе работаючых па найму ў сялянскіх гаспадарках, Галоўсацстрах Беларусі апрадзяліў кантрольную цыфру на 28-29 г. па страхаваньні апошніх у разьмеры 8.000 чал. (сярэднягадавых).

Такім чынам кантэнгэнт застрахаваных у 28-29 г. будзе такі:

| | | |
|---|---|---|
| Па агульнаму страхаваньні | . . | 206.600 чал. |
| „ сялянскіх гаспадарках | . . | 8.000 „ |
| Усяго | . . . . | 214.600 чал. |

Сярэдня-гадавая зарплата застрахаваных звычайна некалькі вышэй зарплаты ўсяго наймовага пэрсаналу, бо недахоп сацстрахаваньнем датычыцца амаль-што выключна нізкааплачваемых груп. Аднак, у сувязі з пашырэньнем абхопу, разрыў у зарплаце паступова зьмяншаецца.

**Сярэдня-гадавая зарплата.**

| | Наймовага пэрсаналу | | Застрахованай масы | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Абсал. | У % % да папярэднягa году | Абсал. | У % % да папярэднягa году | У % % да зарплаты найм. пэрсаналу |
| 1925-26 г. . . . | 543,48 | — | 555,36 | — | 102,2 |
| 1926-27 г. . . . | 588,57 | 108,3 | 594,84 | 107,1 | 101,1 |
| 1927-28 г. . . . | 637,85 | 108,4 | 649,44 | 109,1 | 101,8 |
| 1928-29 г. . . . | 681, | 109,3 | 681,96 | 105,0 | 100,2 |

Такім чынам разрыў у зарплаце зьнізіўся ў 28-29 г. да 0,2 проц., сярэдня-гадовая зарплата дасягне 681,96 р. супроць 681 р. па ўсяму наймоваму пэрсаналу.

### Страхавы тарыф.

Ня гледзячы на сыстэматычнае зьніжэньне сярэдняга страхавога тарыфу разьмер яго на 28-29 г. пакінут па зацьверджаньні СССР бюджэту Беларусі на ўзроўні 1927-28 г.

Дасьвядчэньне папярэдніх год паказала, што тэндэнцыя да зьніжэньня тарыфу існуе заўсёды; гэта пацьвярджаецца і справаздачнымі данымі бягучага году.

Крывая руху страхавога тарыфу:

| | |
|---|---|
| 1925-26 г. | 13,56 |
| 1926-27 „ | 13,12 |
| 1927-28 „ | 12,44 |
| 1928-29 „ | 12,60 |

### Фонд заработнае платы, сумы прылічваючыхся ўзносаў і інтэнсыўнасьць спагнаньня.

Дзякуючы інтэнсыўнаму росту кантынгэнта застрахованых (19,1) і сярэдняе зарплаты (5,0), агульны фонд заработнае платы застрахаваных надта павялічыцца:

Фонд зарплаты:

| | Абсал. | у %% да папяр. году. |
|---|---|---|
| 1927-28 г. | 113.643.000 | +22,0 |
| 1928-29 г. | 140.893.000 | +25,1 |

Пры сярэднім страхавым тарыфе у разьмеры 12,60 прылічваючыяся ўзносы выразяцца у наступных сумах:

| | Абсал. | у %% да папяр. году. |
|---|---|---|
| 1927-28 г. | 14.393.000 | +13,2 |
| 1928-29 г. | 18.130.000 | +25,9 |

Агульная сума прыбыткаў па бюджэту.

Прылічваючыяся страхавыя узносы у 28-29 г. выразяцца у суме:

| | | |
|---|---|---|
| Па агульнаму страхаваньні | 18.130.000 р. | (бягучыя ўзносы+старая запазычанасьць). |
| Па сялянскай гаспадарцы | 101.000 „ | |
| Разам | 18.231.000 р. | |

Агульная сума прыбытку будзе гэткая:

| | |
|---|---|
| 1. Страхавыя ўзносы | 18.129,8 |
| 2. Пені і штрафы | 179,3 |
| 3. %% на капітал | 30,0 |
| 4. Узмацненьне зваротных сродкаў за кошт зьмян. тэрмінаў уплаты страх. узносаў і перадачы сродкаў Камунбанку | 538,8 |
| Разам па агульнаму страхаваньні | 18.877,9 |
| 5. Узносы па страхаваньні на вёсцы | 101,0 |
| Разам | 18.978,9 |

**Выдаткі:**

а) Па забясьпечаньні застрахаваных па часовай непрацаздольнасьці, і па дадатковіх відах.

Пры вылічэньні сум выдаткаў па часовай непрацаздольнасьці, Галоўсацстрах кіраваўся наступнымі паказальнікамі:

1. Гадавым лікам дзён часовай непрацаздольнасьці на 100 застрахаваных і

2. сярэднім разьмерам аднадзеннае дапамогі.

Крывая руху паказальніка часовай непрацаздольнасьці на працягу апошніх трох год прайшла зьвілісты шлях:

Лік дзён непрацаздольнасьці на 100 застрахаваных у год.

| | |
|---|---|
| у 1925-26 годзе | 1070,4 |
| „ 1926-27 „ | 890,4 |
| „ 1927-28 „ | 915,6 |

Па зацьверджанаму Саюзным Саветам Сацыяльнага Страхаваньня бюджэту Беларусі на 1928-29 г. лік дзён часовай непрацаздольнасьці на 100 застрахаваных у год прынят у 907,1.

Сярэдні разьмер аднадзеннае дапамогі склаў у 27-28 г. 3,9357% сярэдняга месячнага заробку застрахаванага (2 р. 12 к.). Улічваючы рост зарплаты ў 28-29 г., запраэктыраваны разьмер аднадзеннае дапамогі у суме 2 р. 25 к.

У выніку—выдаткі на часовую непрацаздольнасьць склалі суму 4.191.300+24,8 супроць 27-28 г. (за вылікам 16.000 эканоміі, якая чакаецца за кошт пераходу да выплаты дапамогі па цяжарнасьці у дарадавы пэрыяд) адзін раз у два тыдні за мінулы час замест практыкав. раней выплаты наперад.

Каэфіцыэнт выдаткаў на догляд і на кармленьне прыняты Саюзным Саветам Сацыяльнага Страхаваньня некалькі павышаным супроць фактычных у 27-28 г., а на пахаваньне—паніжаным.

На 1000 застрахаваных у год прыходзіцца:

| | 27-28 г. | 28-29 г. |
|---|---|---|
| Выдач на догляд | 108 | 110,97 |
| „ на пахаваньне | 34,8 | 35,96 |
| Месяцаў кармленьня | 859,1 | 879,2 |

Сярэдні разьмер дапамогі прыняты Саюзным Саветам Сацыяльнага Страхаваньня наступны:

| | у 27-28 г. | 28-29 г. |
|---|---|---|
| На догляд | 17,39 | 17,60 |
| На кармленьне (у месяц) | 4,38 | 4,41 |
| На пахаваньне | 14,20 | 14,31 |

Сума выдаткаў па дадатковых відах (на застрахаваных і іх сям'і) у 1928-29 г. складзе суму Р. 1.121,7 тыс. (пасьля выліку эканоміі Р. 187,5 тыс., чакаемай за кошт мяркуемага зьніжэньня разьмеру дапамог дзеля жыхарствуючых у вясковых мясцовасьцях сяброў сям'і застрахаваных і ўстанаўленьня стажу дзеля атрыманьня права на дадатковыя дапамогі па выпадку нараджэньня дзіцяці і за кошт пераходу да выплаты дапамог на кармленьне дзіцяці адзін раз у месяц за мінулы час замест практыкуемай выплаты уперад).

## Б. Выдаткі па забясьпечаньні пэнсіянэраў па інваліднасьці і дадатковых відах.

Сярэдня-гадавы лік пэнсійных адзінак на забясьпечаньні страхорганаў на 28-29 г. вылічаны з вучотам нармальнага гадавога прыросту, а таксама зьняцьця прастарэлых рабочых з вытворчасьці. У віду таго, што да амаладжэньня рабочага складу у 28-29 г. будзе толькі прыступлена, Галоўсацстрах запраэктыраваў сярэдня-гадавы лік старыкоў зьнятых з вытворчасьці у 500 чал.

Рост ліку пэнсійных адзінак некалькі ўхутчыцца:

| | Абсал. | у % | На 100 застрах. |
|---|---|---|---|
| 1925-6 г. . . | 8,261 | 100,0 | 5,95 |
| 1926-7 г. . . | 10,266 | 124,3 | 6,46 |
| 1927-8 г. . . | 12,864 | 125,3 | 7,41 |

Склад запраэктыраваных 16.495 пэнсійных адзінак будзе такі:

| | Інвалідаў. | Сем'яў згуб. кармільц. |
|---|---|---|
| Ад агульных захварваньняў і грамадз. вайны . | 9,166 | 4.882 |
| „ прафкалецтва і праф. захварваньняў . . | 561 | 309 |
| Асьветнікаў . . . . . . . . . . | 800 | |
| Старыкоў, зьнятых з работы . . . . . | 500 | |

Сярэднія разьмеры пэнсіі прыняты наступныя ў параўнаньні з фактычнымі ў 1927-28 г.:

| | 1927-28 г. | 1928-29 г. |
|---|---|---|
| **Інвалідаў** | | |
| а) ад агульных прычын і грамадзянскай вайны . . . . . | 17—94 | 17—96 |
| б) за прафкалецтва і профзахварваньня | 23—51 | 23—57 |
| **Сям'і, згубіўшай кармільца** | | |
| а) ад агульных прычын і грамадзянскай вайны . . . . . | 13—98 | 14—02 |
| б) ад профкалецтва і профзахварваньня | 23—86 | 24—61 |

## В. Забясьпечаньне па беспрацоўю.

У аснову вылічэньня ліку беспрацоўных па дапамозе паложаны разрахункі НКП БССР у галіне рынку працы. Ня гледзячы на запраэктыраваньня НК Працы некаторага зьніжэньня ліку беспрацоўных (на 28-29 г. 1,4%), Галоўсацстрах мяркуе рост кантынгэнту атрымоўваючых дапамогі на 14,9%), бо у 28-29 г. таксама, як і у папярэднія гады будзе вытварацца далейшае пашырэньне ахопу беспрацоўнай масы страхавым забясьпечаньнем у выніку набыцьця неабходнага працоўнага стажу на часовых і сэзоных работах.

| | 927-28 г. | 1928-29 . |
|---|---|---|
| Лік беспрацоўных па падліку БП і прафсаюзаў | 44.098 | 43.481 |
| „ „ на дапамогах . . . | 13.391 | 15.218 |
| Процант ахопу . . . . . . | 30,0 | 35,0 |

Ахоп беспрацоўных дапамогамі з кожным годам пашыраецца:

| | |
|---|---|
| 1925-26 г. . . . | 26,8 |
| 1926-27 г. . . . | 29,2 |
| 1927-28 г. . . . | 30,0 |
| 1928-29 г. . . . | 35,0 |

Усяго па зацьверджанаму Саюзным Саветам Сацыяльнага Страхаваньня бюджэту на 1928-29 г. мяркуецца да выплаты за год 176.000 месячн. дапамог па беспрацоўю, альбо сярэдна у месяц—14.666.

Сярэдні разьмер месячнае дапамогі па беспрацоўю прыняты у разьмеры 11 р. 50 к. (разам з сямейнымі надбаўкамі). У адносіне да сярэдняй месячнай зарплаты месячная дапамога па беспрацоўю складзе 20,2%.

Агульная сума выдаткаў па беспрацоўю, уключаючы 210.000 р. на працоўную дапамогу, складае 2.314,1 тыс. руб. супроць 2.119.393—11— рост на 9,2%.

### г. Прафілактыка.

У сувязі з адчыненьнем сухотнага санаторыя „Сасноўка“, выдаткі на прафілактыку у 28-29 г. значна павялічваюцца

Лік асоб, падлягаючых накіраваньню на курорты, санаторыі і ў дамы адпачынку, будзе такі:

| | 27-28 г. | 28-29 г. | |
|---|---|---|---|
| У зімовыя і летнія дамы адпачынку | 9100 | 9100 | |
| У мясцовыя санаторыі | — | 780 | (акрамя гэтага--столькі-ж за лік лекавага фонду). |
| На курорты | 227 | 227 | |
| Усяго | 9327 | 10107 | |

Усяго асыгнавана па бюджэту Галоўсацстраху на прафілактыку:

| | |
|---|---|
| а) на утрыманьне дамоў адпачынку, санаторыяў і закупку курортных месц | 402.730 р. |
| б) на будаўніцтва, капітальны рамонт і абсталяваньне дамоў адпачынку | 52.920 „ |
| в) на сканчэньне будаўніцтва санаторыя „Сасноўка“ | 270.000 „ |
| Усяго | 725.650 р. |

### д) Страхавая асьвета.

Фактычны выдатак у 1927-28 г, на страхасьвету 5303 р. На 1928-29 год асыгнавана 8900 р.

### е) Арганізацыйныя выдаткі.

На арганізацыйныя выдаткі асыгнавана сума у разьмеры, мінулага 27-28 г., менавіта: 421.800 р.

### ж) Адлічэньні на мэддапамогу застрахаваным.

Сума вылічана у адпаведнасьці з пастановай СНК СССР па агульнасаюзнаму бюджэту сацстраху, менавіта, з разьліка сумы паступленьняў на 1 застрахаванага у мінулым годзе, плюс 4% на павялічэньне зарплаты мэдпэрсаналу. Уся сума адлічэньняў складае 4165,5 тыс. супроць 3.418.929,64 у 27-28 г. альбо узрост на 21,8%.

### з) адлічэньні у фонд рабжылбудаўніцтва і ва Усесаюзны Запасны Фонд.

Сумы гэтых адлічэньняў у 1928-29 г. складуць:

| | | |
|---|---|---|
| На рабжылбудаўніцтва | 622 8 | тыс. |
| Ва усесаюзны запасны фонд | 691,500 | „ |

### і) Выдаткі па страхаваньні наймовае працы у сялянскай гаспадарцы.

З прычыны адсутнасьці практыкі у страхаваньні гэтага кантынгэнту працоўных, прынятыя на 1928-29 г, выдаткі у разьмеры сум прыбытку па іх страхаваньні, г. зн. 100.800 р.

## Агульная сводка прыбыткаў і выдаткаў

па зацьверджанаму Саюзным Саветам Сацыяльнага Страхаваньня бюджэту Беларусі на 1928-29 г. прадстаўляецца ў наступным відзе: (у 1000 р. без страхаваньня на вёсцы).

| Прыбыткі і выдаткі | 1927-28 г. (па справаздачн. даных) | | 1928-29 г. (па бюджэту, зацьверд. СССР) | %% росту |
|---|---|---|---|---|
| **А. Прыбыткі.** | | | | |
| 1. Узносы ад страхавацеляў . . | 15.398.432 | 93 | 18.129,8 | + 17,7 |
| 2. Пені і штрафы . . . . | 235.859 | 99 | 179,3 | — 24,0 |
| 3. %% на капітал і інш. паступл. . | 102.161 | 79 | 30,0 | — 71,0 |
| 4. Узмацненьне зваротных сродкаў за кошт зьмяненьня тэрмінаў уплаты ўзносаў і перадачы сродкаў Цэкамбанку . . . . . | — | — | 538,8 | — |
| Разам па прыбыткам . . | 15.736.454 | 71 | 18.877,9 | + 20,0 |
| **Б. Выдаткі.** | | | | |
| 1. Дапамога па часовай непрацазд. . | 3.356 021 | 30 | 4.191,3 | + 24,9 |
| 2. „ „ дадат. відах забяс. . | 1.070.878 | 95 | 1.121,7 | + 4,7 |
| 3. Забясьпечаньне па інваліднасьці . | 2.636.452 | 75 | 3.199,6 | + 21,4 |
| 4. „ „ беспрацоўю . | 2.119.393 | 11 | 2.314,1 | + 9,2 |
| 5. Арганізацыйныя выдаткі . . | 435.424 | 22 | 421,8 | + 3,2 |
| 6. Дамы адпачынку і санаторыі (уключаючы надзвычайныя выдаткі) . | 628.016 | 94 | 725,6 | + 15,5 |
| 7. Утрыманьне ўрачэбнага кантроля. | 96.051 | 52 | 60,0 | — 37,4 |
| 8. Страхасьвета . . . . | 5.303 | 89 | 8,9 | + 67,9 |
| 9. Інспэкцыя Працы . . . | 24.959 | 96 | 27,0 | + 8,4 |
| 10. Выдаткі на страхав. старасьці . | — | — | 161,6 | — |
| 11. Іншыя выдаткі . . . . | 20.391 | 83 | — | — |
| Разам па непасрэд выдаткам . | 10.392.894 | 47 | 12.231,6 | + 17,1 |
| 12. Адлічэньні ў фонд мэддапамогі . | 3.418.929 | 64 | 4.165,5 | + 21,8 |
| 13. „ „ „ рабжылбудаўн. . | 1.558.344 | 43 | 622,8*) | — 60,0 |
| 14. „ у Усес. фонд сацстраху . | 511.249 | 11 | 691,5 | + 35,2 |
| Усяго . . . | 15.881.417 | 65 | 17.711,4 | + 11,5 |
| В. Дэфіцыт . . . . | 144.962 | 94 | — | — |
| Г. Астача . . . . | — | — | 1.166,5 | — |

*) У суму фактычных адлічэньняў у фонд рабочага жыльлёвага будаўніцтва на 1927-28 г. уваходзіць мэтавая надбаўка, а ў суму мяркуемых адлічэньняў на 1928-29 г. уваходзяць толькі адлічэньні 0,5 з фонду сацстраху і мэддапамогі, але мэтавая надбаўка не ўваходзіць.

## V. Чарговыя задачы страхавых кас у справе выкананьня бюджэту на 1928-29 г. і пастаноў VIII Зьезду Прафсаюзаў.

Аналізіруючы прыведзены вышэй матар‘ял, трэба адзначыць, што апошнія два гады работы страхорганаў Беларусі могуць быць адзначаны шэрагам дасягненьняў у галіне ўзмацненьня фінансавай базы сацстраху. Асабліва вылучаецца па сваім рэальным вынікам мінулы 1927-28 год. Бюджэт гэтага году выкананы з дэфіцытам Р. 134.000 замест меркаваных ім 340.000 р., дзякуючы чаму фінансавыя пэрспэктывы адносна стану фондаў сацстраху Беларусі да канца 1927-28 г. значна зьмяніліся ў спрыяючы бок у параўнаньні з прадугледжанымі на падставе бюджэту 1927-28 г.

Пералом у характары бюджэтаў фондаў страхкас найлепшым чынам ілюструецца тым фактам, што замест 7 дэфіцытных кас у 1926-27 г. мы маем у 1927-28 г. 4 дэфіцытных касы. Таксама маецца паменшаньне ступені дэфіцытнасьці тых кас, якія яшчэ не перайшлі ў катэгорыю памысных па сваей бюджэтнай роўнавагі.

Аснаўнымі фактарамі, дзякуючы якім удалося значна паменшыць ступень дэфіцытнасьці фонду сацстраху Беларусі, ня гледзячы на тое, што ўзровень сярэдняга страхавога тарыфу не затрымаўся на вышыне, меркаванай бюджэтам, а зьнізіўся да 12,44—зьяўляецца энэргічнейшы націск, вытвараны страхорганамі Беларусі на працягу 1927-28 г. у адносіне выяўленьня і спагнаньня прылічваючыхся страхавых узносаў. Інтэнсыўнасьць спагнаньня складала 102,56. Кантрольным апаратам касы ахоплена праверкай 30,7 проц. усяго фонду выплачанае зарплаты; выяўлена на Р. 2.113.000 захаванай зарплаты, якія складаюць для бюджэту сацстраху Беларусі дадатковы, не прадугледжаны бюджэтам прыбытак Р. 260.000.

Пры ўсіх паказаных дасягненьнях, дзякуючы якім паменшылася ступень дэфіцытнасьці страхавога бюджэту Беларусі, агульны стан сродкаў зьяўляецца яшчэ вельмі напружаным і мы маем ня толькі адсутнасьць якіх небудзь астаткаў па фондам, але значны дэфіцыт (уключаючы перавыдатак за мінулыя гады), які пагражае сур‘ёзнымі перабоямі ў рабоце органаў сац. страхаваньня. Для бесперабойнай выплаты дапамог страхавыя органы Беларусі часам бываюць прымушаны затрымліваць сродкі цэнтралізаваных фондаў і нават прыбягаюць да атрыманьня пазыкі з уплатай па ім проц.

Незалежна ад маючыхся дасягненьняў у галіне спагнаньня страхузносаў, аналіз фінансавае работы а акруговым разрэзе выяўляе, што шэраг акруг па паасобных паказальніках фінансавае работы яшчэ значна адстаюць і многімі касамі яшчэ далёка не выкарыстаны ўсе магчымасьці ў галіне максымальнага павялічэньня сваіх прыбыткаў. Да ліку сур‘ёзнейшых дэфэктаў у фінансавай рабоце за мінулы год трэба так сама аднесьці дапушчэньне шэрагам кас перавыдаткаў па цьвёрдым каштарысам, што ня толькі недапушчальна з боку ажыцьцяўленьня плянавасьці выдаткаваньня страхавых сродкаў, але зьяўляецца прамым надрывам усіх мерапрыемстваў, прымаемых для палепшаньня фінансавага становішча органаў сацстраху.

Пастановамі 8 Зьезду прафсаюзаў перад страхавыіі органамі высунут шэраг новых задач у галіне далейшага палепшаньня ўсей справы сацыяльнага страхаваньня, аснаўнымі з якіх зьяўляюцца: а) распаўсюджваньне страхаваньня па старасьці на гарнякоў, мэталістых і транспартнікаў, б) далейшае адхіленьне дробных абмежаваньняў ва ўмовах набыцьця права на тыя, альбо іншыя віды страхавой дапамогі, в) фак-

тычны абхоп страхавым забясьпечаньнем батрацтва і пастушаства і г) далейшае рашучае зблiжэньне абслугоўваньня застрахаванай масы.

Правядзеньне ў жыцьцё ўсіх рашэньняў 8-га Зьезду Прафсаюзаў у галіне сацстраху можа быць забясьпечана толькі пры ўмове, калі стан страхавых фондаў будзе караным чынам зьмянены і пад сацстрахаваньне будзе падведзена ўстойлівая фінансавая база.

Выходзячы з неабходнасьці поўнага правядзеньня ў жыцьцё ўсіх пастаноў 8 Зьезду Прафсаюзаў па пытаньнях сацстрахаваньня і маючы на ўвазе, што далейшае ўзмацненьне фінансавае базы сацстраху магчыма шляхам павялічэньня прыбыткаў і рашучым скарачэньнем шэрагу не вытворчых выдаткаў, якія яшчэ маюцца ў практыцы фінансавае работы страхавых кас, перад усімі органамі сацыяльнага страхаваньня павінны быць пастаўлены наступныя чарговыя задачы:

### У галіне спагнаньня страхузносаў:

1) Дабіцца акуратнага прадстаўленьня страхавацелямі разрахунковых ведамасьцяў на працягу 1928-29 г. ня менш 95 проц., зварочваючы асаблівую ўвагу на раённых страхавацеляў, у адносіне якіх справа абстаіць зусім нездавальняючы.

2) Увесьці строгую плянавасьць у работу па праверцы страхавацеляў з тым, каб у першую чаргу ахапіць першапачатковай праверкай страхавацеляў, яшчэ ніколі не правераных і страхавацеляў найбольш буйных па разьмеру выплачваемай зарплаты. У кожным выпадку выяўленьня захаванай зарплаты абавязкова практыкаваць прыцягненьне да крымінальнай адказнасьці. Зьвярнуць увагу на якасьць кантрольнае работы, ведзячы асобны вучот вынікаў праверкі ў адносіне разьмера выяўляемых сум захаванай зарплаты. Для забясьпечаньня павышэньня агульна - рэспубліканскага проц. праверкі зарплаты, падцягнуцца, у першую чаргу, акругам па вынікам работы за 1927-28 г. Ахапіць праверкай кантрольнага апарату страхкас на працягу 1928-29 г. ня менш 50 проц. фонду зарплаты.

3) Шырока скарыстоўваць прадстаўленыя страхорганам права бяспрэчнага спагананьня запазычнасьці, прыцягненьне да крымінальнай адказнасьці злосных неплатнікаў, дзеля забясьпечаньня на працягу 1928-29 г. поўнага 100 проц. спагнаньня бягучых налічэньняў і ўсей астачы запазычнасьці мінулых гадоў, значна павысіць процант спаганяемай пені, сьпісваючы гэткую толькі ў самых выключных выпадках.

4) Пасьля зьмяненьня тэрмінаў уплаты страхавых узносаў, катэгарычна-прытрымлівацца парадку ўплаты іх—два разы ў месяц, маючы на ўвазе тый значны фінансавы эфэкт, які чакаецца і замацнен у зацьверджаным на 1928-29 г. бюджэце. Толькі ў выключных выпадках лічыць магчымым у адносіне невялікага колу маламоцных страхавацеляў паступовы пераход на новы парадак ўплаты страхавых узносаў, на падставе папярэдняй дагаворанасьці.

### У галіне выдаткаваньня сродкаў.

1) Устанавіць сыстэматычны нагляд за правільным выдаткаваньнем сродкаў у мяжох зацьверджаных цьвердых каштарысаў, прыцягваючы вінаватых за дапушчэньне перавыдаткаў да судовай адказнасьці.

2) Забясьпечыць сваечасовае атрыманьне страхкасамі зацьверджаных у ўстаноўленым парадку цьвердых каштарысаў па ўсіх відах выдаткаў, не зьвязаных са страхавой рызыкай.

### У галіне рэгуляваньня фондаў.

1) Устанавіць, як правіла, пакваргальны аналіз Галоўсацстрахам фінансавых апэрацый страхкас з адпаведнай ацэнкай якасьці паказальнікаў фінансавае работы. Вытвараць на падставе аналізаў балянсаў перасоўваньне сродкаў, выходзячы з застаўленьня ўсім акругам аднолькавога запасу уласных сродкаў дзеля патрэб бягучай выплаты дапамог і пэнсій.

2) Поўны і сваечасовы перавод Галоўсацстраху ўсіх адлічэньняў у цэнтралізаваныя рэспубліканскія фонды, як раўно і ва Ўсесаюзныя Цэнтралізаваныя фонды—незалежна ад ступені дэфіцытнасьці данае касы лічыць абавязкам усіх страхкас. Водпуск датацыі Галоўсацстрахам наяўнымі сродкамі альбо шляхам залічэньня сум цэнтралізаваных фондаў, вытвараць выключна па датацыйных патрабаваньнях, прад'яўляемых касамі пры поўным дэтальным аналізе фінансавае работы касы і аб'ектыўнасьці прычын дэфіцыту.

3) Зьвярнуць сур'ёзную увагу на пытаньне аб разьмеркаваньні грашовых сродкаў касы па паасобных артыкулах актыва з тым, каб, папершае, максымальна паменшыць разьмер сум, застаючыхся у раёнах, даведзячы гэткі да мінімальна неабходнага рэзэрву, і, падругое, поўнасьцю ліквідаваць выпадкі знахаджэньня якіх небудзь сум ня спагнанымі па рахунку розных асоб і ўстаноў.

### У галіне мэдычнай дапамогі і забясьпечаньня па часовай непрацаздольнасьці і інваліднасьці.

1) Значна ўзмацніць удзел Камітэтаў акрстрахкас у распрацоўцы ўсіх плянаў і каштарысаў па аказваньні мэдычнай дапамогі застрахаваным, як за лік датацыйных сродкаў, так і за кошт агульна-бюджэтных асыгнаваньняў, выходзячы з таго, што адказнасьць за добрую пастаноўку мэддапамогі і за якасьць мэдычнага абслугоўваньня застрахаваных ляжыць на страхкасах у аднолькавай, як на органах Аховы Здароўя ступені.

2) Устанавіць сыстэматычнае абсьледваньне сіламі сяброў камітэту, рэўкамісіі і страхавых дэлегатаў пастаноўкі работы ў паасобных буйных лячэбна-прафілактычных стацыянарах і амбуляторыях.

3) Арганізаваць сыстэматычнае вывучэньне матар'ялаў захварваемасьці застрахаваных, у першую чаргу, для мэтаў практычных мерапрыемстваў, у галіне зьніжэньня каэфіцыэнтаў захварваемасьці, у частковасьці па лініі прамысловага траўматызму на прадпрыемствах Беларусі.

4) Страхкасам, па даных першапачатковай распрацоўцы, вясьці бягучы сыстэматычны нагляд за агульнымі паказальнікамі на найбольш буйных прадпрыемствах, непамысных па высаце каэфіцыэнта захварваемасьці. Практыкаваць спэцыяльныя абсьледваньні стану хворасьці па паасобных прадпрыемствах з выкарыстаньнем дзеля гэтага апарату ўрачэбнага кантролю.

5) Лічыць неабходным перадачу БУЭ у падпарадкаваньне страхорганаў. Да ажыцьцяўленьня гэтага пераходу, узмацніць свой удзел у органах БУЭ, падняўшы ўплыў прадстаўніцтва страхкас на работу органаў урачэбнай экспэртызы.

6) Распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы для пашырэньня практыкі працоўнага каапэрыраваньня інвалідаў, а таксама выкарыстаньня няпоўнага і перакваліфікацыі працы інвалідаў.

**У галіне масавае работы і абслугоўваньня застрахаваных.**

1) Улічваючы, што стаячыя перад імі задачы органы сацыяльнага страхаваньня змогуць выканаць толькі пры ўмове актыўнага падтрыманьня з боку шырокіх колаў рабочай грамадзкасьці, страхкасы павінны правесьці наступныя мерапрыемствы па масавай рабоце і па палепшаньні абслугоўваньня застрахаваных.

2) Увесьці аднолькавую форму сыстэматычнай справаздачнасьці кас перад застрахаванай масай, прыбліжаючы іх да месца работы застрахаваных і злучаючы з папулярызацыяй страхавога заканадаўства і справачнае інфармацыяй застрахаваных аб парадку работы страхорганаў.

3) Пашырыць практыку пастаноўкі дакладаў камітэтаў кас, а таксама адчыненых пасяджэньняў К-таў кас на буйных прадпрыемствах.

4) Распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы для забясьпечаньня лепшага і поўнага выкарыстаньня асыгнаваньняў на страхасьвету, звярочваючы іх, галоўным чынам, на выдаткі па папулярызацыі страх. заканадаўства сярод шырокіх мас застрахаваных, а таксама на абслугоўваньне ў галіне страхавой асьветы нізавога прафсаюзнага і страхавога актыву.

5) Паусяместна увесьці інстытут страхдэлегатаў. Паставіць іх работу так, каб яны ў поўнай меры служылі папулярызатарамі страх. заканадаўства і страх. інфармацыі сярод застрахаваных, абслугоўваемых імі прадпрыемстваў і, з другога боку, памочнікамі страхкасы ў справе сыстэматычнага палепшаньня пастаноўкі работ па абслугоўваньню застрахаваных.

6) Далейшае рашучае зьбліжэньне абслугоўваньня да застрахаванай масы, шляхам пераходу на выдачу дапамог непасрэдна на прадпрыемствах, на даму, як праз апарат страхкасы, так і праз адпаведных кантрагэнтаў-пошты, касы ашчаднасьці і г. д.

---

## Матар'ял па дакладу т. т. Амстэрдама і Лашкевіча аб мерапрыемствах па далейшаму паглыбленьню страхаваньня батрацтва і пастушаства ў БССР.

1. Першы год практычнага правядзеньня закону аб сацыяльным страхаваньні батрацтва ва ўмовах БССР даў наогул нездавальняючыя вынікі. Застрахавана 5746 чал. (з іх па 10%—397, па 6%—4446 і па 3%—973), што дае толькі 11% абхопу ў адносіне да ўсяго батрацтва і пастушаства, якое павінна быць застрахавана ў абавязковым парадку (46000). Яшчэ больш слаба было пастаўлена абслугоўваньне застрахаванага батрацтва, як па лініі аказаньні страхавой дапамогі, так і лекавымі ўстановамі. Аб гэтым сьведчаць наступныя лічбы: выдаткаваньне на дапамогу батрацтва да 1-X—545 руб., за гэты жа час атрымана ўзносаў 10643 руб.

2. Грунтоўнымі прычынамі слабага правядзеньня закону аб страхаваньні батрацтва былі:

а) раскіданасьць батрацкай масы, адсутнасьць месц значнага яе згуртаваньня;

б) перашкоды арганізацыйнага характару: познае апублікаваньне інструкцыі і рассылкі на месцы формы і блянкаў справаводства, складанасьць і недастатковасьць прыстасаваньня гэтых форм і наогул тэхнікі работы;

в) у пераважнай большасьці выпадку адсутнасьць патрэбнага актыўнага садзейнічаньня райупаўнаважаным сацстраху з боку мясцовых савецкіх органаў (с/с. і РВК), пры чым страхкасы своечасна і дастаткова на гэта не рэагавалі;

г) зусім слабае абзнаямленьне як батрацтва, так і наймальнікаў і, нават, работнікаў с/с. і саюзу з законам і практычным парадкам яго правядзеньня;

д) поўная бязьдзейнасьць часткі ўпаўнаважаных, невыстарчальная ўвага другой часткі іх пры адсутнасьці жывога інструктаваньня на месцы і кантролю з боку страхкас.

3. Вопыт паказвае, што ў тых мясцох, дзе ўпаўнаважныя і саюзныя арганізацыі выявілі патрэбную зацікаўленасьць, дзе ў дапамогу былі ўцягнуты савецкія і партыйныя арганізацыі, абхоп страхаваньнем батрацтва значна пашыраны (Пухавіцкі раён, Менскае акругі і інш.).

4. Набліжаючыйся сэзон найму батрацтва і пастушаства патрабуе ад органаў сацстраху, саюзу і аховы здароўя максымальнага праяўленьня энэргіі і ініцыятывы ў справе найбольшага абхопу сацстрахаваньнем батрацтва ў кулацкіх гаспадарках і грамадзкіх пастухоў, а таксама разгортваньня дабраахвотнага страхаваньня.

5. Устанавіць наступны арыентыровачны плян абхопу батрацтва страхаваньнем у 1929 г. (па абавязковаму страхаваньні).

| | |
|---|---|
| Па Менскай акрузе | 7000 |
| „ Аршанскай „ | 5000 |
| „ Віцебскай „ | 3000 |
| „ Полацкай „ | 2500 |
| „ Магілеўскай „ | 6000 |
| „ Бабруйскай „ | 7000 |
| „ Гомельскай „ | 7000 |
| „ Мазырскай „ | 2000 |
| Разам па БССР | 39500 |

6. Дзеля ажыцьцяўленьня вышэйпаказанага належыць:

а) на падставе арыентыровачнага пляну акругі і вучоту ўмоў кожнага раёну вызначыць цьвёрдыя параённыя лічбы батрацтва і пастушаства, якое павінна быць застрахавана ў 1929 г.;

б) Камітэтам Акрстрахкас выдзяліць з сваіх сяброў аднаго адказнага за правядзеньне ў акрузе ўсей работы па страхаваньні батрацтва;

в) дзеля інструктаваньня, практычнага наказу і праверкі работы райупаўнаважных па сацстрахаваньні батрацтва зрабіць ня менш аднаго выязду работнікаў акрстрахкас у кожны з раёнаў;

г) Акрстрахкасам вызначыць найбольш важныя па страхаваньні б-ва раёны і ўнутры іх сельсаветы, на якія зьвярнуць асаблівую ўвагу, накіроўваючы прадстаўнікоў акрстрахкасы ў гэтыя месцы дзеля дапамогі ў падрыхтоўцы правядзеньня страхаваньня і вывучэньня вопыту работы;

д) на падставе маючыхся паказаньняў СНКБ і АВК і НКПБ патрабаваць ад РВК і с/с. найбольшага ўдзелу і дапамогі ў рабоце райупаўнаважных па выяуленьні гаспадарак прамысловага тыпу, выдзяленьні ўпаўнаважных грамад, наймаючых пастухоў, абзнаямленьні наймальнікаў з парадкам правядзеньня закону і прымушэньні—узьдзейнічаньня наймальнікаў, якія ўхіляюцца ад выкананьня сваіх абавязкаў.

Аб кожным выпадку нядбайных адносін, сыстэматычнага невыкананьня с/с. абавязкаў па дапамозе ў правядзеньні страхаваньня ставіць пытаньне перад РВК і іншымі арганізацыямі аб прыцягненьні іх да адказнасьці.

Акрстрахкасам рабіць тое-жа самае ў адносіне РВК.

е) На падставе інструкцыі НКПБ (за 27-IX № 60, Бюл. СНК № 12/55 за 28 г.) настойваць і прасачыць за тым, каб с/с. былі праведзены выбары ўпаўнаважных сельскіх грамад, што наймаюць пастухоў і сьпіскі абабраных прысланы райупаўнаважным не пазьней 15 траўня;

ж) райупаўнаважным на падставе сьпіску гаспадарак прамысловага тыпу (складзеных с/с., згодна пастановы НКПБ ад 10 ліпеня 1928 г. № 46), даных з РВК па абкладаньні с. г. падаткам, ведаў саюзу і ўласных скласьці не пазьней 1 траўня сьпіскі кулацкіх гаспадарак, падлягаючых абавязковаму страхаваньні;

з) карыстаючыся сьпіскамі абабраных упаўнаважных сельскіх грамад і сьпіскамі кулацкіх гаспадарак, райупаўнаважныя да 15 траўня павінны разаслаць правы кожнаму з іх аб яўцы на вызначаны час дзеля афармленьня сацстрахаваньня. У выпадку неяўкі пасьля другога напамінку, прыцягваць кулацкія гаспадаркі праз інспэкцыі працы, а ўпаўнаважных сельскіх грамад—праз РВК да адміністрацыйнай адказнасьці (накладаць штраф).

У асобныя пункты і с/с., дзе маецца значная колькасьць страхавацеляў, замест выкліку іх у канцэлярыю райупаўнаважнага—вызначыць на абмежаваны час выезды ў с/с. для афармленьня на месцы, паведаміўшы аб гэтым папярэдня страхавацеляў;

і) на працягу сакавіка—траўня разгарнуць шырокую тлумачальную кампанію аб зьмесьце закону і, галоўнае, аб практычным парадку яго правядзеньня. Даклады райупаўнаважных пра гэтае перш за ўсе павінны быць пастаўлены на батрацкіх канфэрэнцыях і на пленуме РВК, ці на нарадах старшынь с/с., далей на сходах батрацтва, на пленуме кожнага с/с. і, пасьля гэтага, на сходах сялян. Для правядзеньня гэтае работы павінен быць выкарыстаны ўвесь актыў саюзу с. г. і л. рабочых, загадчыкі хат-чыталень, камсамольскі актыў і настаўніцтва, а райупаўнаважныя павінны забясьпечыць інструктаваньне іх.

У далейшым райупанаважны павінен выкарыстоўваць кожную магчымасьць для папулярызацыі сярод батрацтва і наймальнікаў закону карысьасьці дабраахвотнага страхаваньня і г. д.

Павінны быць складзены дэталевыя пляны мерапрыемстваў па папулярызацыі закону і ўключаны ў агульны плян работы па страхаваньні б-ва.

Дамовіцца і прыцягнуць да растлумачальнае работы паліт-асьветныя ўстановы вёскі (хаты-чытальні, нардамы).

к) Наладзіць цесную сувязь і ўзаемную дапамогу ва ўсей практычнай рабоце па сацстрахаваньні батрацтва паміж райупаўнаважнымі і саюзам с/г і л. рабочых, рашуча зжыўшы ўсё меўшыя ў мінулы год недарэчнасьці, неўвязкі пра практычныя формы ўзаемнай дапамогі. Распрацаваць і даць мясцом дэталевыя паказаньні;

л) устанавіць, што дагавор, заключаны саюзам з серадняцкімі гаспадаркамі, калі ў яго ўключана згода наймальніка застрахаваць батрака, зьяўляецца адначасна згодай на дабраахвотнае страхаваньне і на падставе сьпіскаў гэткіх дагавораў, якія с/рабачкомамі павінны прысылацца райупаўнаважнаму, апошні проста афармляе іх, як ужо згадзіўшыяся;

м) адобрыць вызначаныя Галоўсацстрахам крокі па спрашчэньні ўсей тэхнікі справаводства, сыстэмы рэгістрацыі, заяў, паведамленьняў, спагнаньня і выдачы дапамог;

н) Акрстрахкасам і райупаўнаважным скласьці асобныя дэталевыя пляны работы па правядзеньні страхаваньня батрацтва ў 1929 г.

7. Усе мерапрыемствы, становішча і перашкоды ў гэтай рабоце сваячасна шырока асьвятляць перад адпаведнымі партыйнымі, савецкімі, камсамольскімі і саюзнымі арганізацыямі, настойна дабіваючыся ад іх дапамогі ў рабоце.

---

## Матар'ялы да дакладу т. Гольдзіна „Аб стану захварваемасьці і прамысловага траўматызму сярод застрахаваных БССР і задачы страхавых кас“.

Лічбы захварваемасьці і прамысловага траўматызму ў БССР так вялікі, што прымушаюць зьвярнуць на іх самую сур'ёзную ўвагу. Прамысловасьць Беларусі, якая значна розьніцца ад прамысловасьці цэлага шэрагу буйных прамысловых раёнаў Саюзу, дае паказальнікі частаты часовай страты працаздольнасьці, якія значна перавышаюць гэткія па СССР. Гэта акалічнасьць выклікае вялікую небясьпеку. Яна падрывае прамысловасьць, яна мясцамі літаральна зрывае вытворчыя пляны, яна зьніжае якасьць прадукцыі, падрывае моц прадпрыемства, яна, нарэшце, згубліва дзейнічае на фінансавы дабрабыт органаў сацыяльнага страхаваньня, робячы іх часам дэфіцытнымі і высоўвае перад страхавымі касамі праблему рашучае барацьбы з гэтым злом, якое за апошнія гады амаль што стабільнае, а ў некаторых мясцох мае нават тэндэнцыю да ўзросту.

Рух паказальнікаў захварваемасьці (агульнае і па калецтву) сярод усей застрахаванай масы Беларусі быў такі:

| | Лік выпадку на 100 застрах. | | Лік аплачаных дзён на 100 застрах. | |
|---|---|---|---|---|
| | БССР | СССР | БССР | СССР |
| 1925-26 г. . . . | 111,6 | 84,0 | 837,6 | 883,0 |
| 1926-27 г. . . . | 93,5 | 78,0 | 668,6 | 783,7 |
| 1927-28 г. . . . | 98,5 | н. в. | 695,3 | н. в. |

Паказальнік дзён захварваньня па БССР хаця і зьяўляецца трохі ніжэйшым, чым сярэдні па СССР, але калі прыняць пад увагу, што Беларусь у аснаўным пакуль што зьяўляецца краінай непрамысловай, дык прыходзіцца яго лічыць вельмі высокім, а калі падлічыць яшчэ, што лік выпадкаў часовай непрацаздольнасьці на 100 застрахаваных у Беларусі больш, чым сярэдні па Саюзу, дык прыходзіцца канстатаваць відавочную ненармальнасьць гэтага зьявішча. Выявіць прычыны гэтых ненармальнасьцяў і намеціць мерапрыемствы для іх зьнішчэньня зьяўляецца аснаўной мэтай даклада. Прывадзімыя ніжэй матар'ялы даюць яскравы малюнак стваноўшча захварваемасьці і прамысловага траўматызму сярод застрахаваных мас Беларусі.

У першую чаргу мы наглядаем павышаную захварваемасьць у прамысловасьці, але некаторыя і непрамысловыя групы застрахаваных (асабліва ахова здароўя і мясцовы транспарт) даюць вельмі высокія паказальнікі.

На 100 застрахаваных БССР даводзіцца дзён непрацаздольнасьці ў год:

1. Сельская і лясная гаспадарка . . 282
2. Зносіны . . . . . . 572
3. Ахова ўнутранага парадку . . . 574
4. Гандаль . . . . . . 608
5. Хатняя і грамадзкая гаспадарка . . 642
6. Кіраўніцтва і кантроль . . . 662
7. Будаўнічая справа . . . 915
8. Выхаваньне і асьвета . . . 1095
9. Грамадзкае ўпарадкананьне . . 1233
10. Траспарт (мясцовы) . . . 1276
11. Грамадзкая ахова здароўя . . 1374
12. Прамысловасьць . . . . 1513

Для паглыбленай прапрацоўкі пытаньня аб становішчы захварваемасьці і траўматызму сярод прамысловых рабочых, органамі сацстраху было вылучана 84 прадпрыемстваў з агульным лікам рабочых у 26404 чал., якія па паасобных галінах прамысловасьці разьбіваліся наступным чынам:

1. Апрацоўка мэталю . . . 3227 чал.
2. „ дрэва . . . 3045 „
3. „ валакнаватых матэрый . 4703 „
4. „ паперы . . . 3375 „
5. „ мінэральных матэр. . 3649 „
6. „ харч. матэр. . . 1377 „
7. „ жывот. прад. . . 1759 „
8. Хімічная вытворчасьць . . 3749 „
9. Перадача электраэнэргіі . . 389 „
10. Графічная вытворчасьць . . 1135 „

Удзельная вага жаночае працы сярод застрахаваных гэтых прадпрыемстваў складзе 32%. У апрацоўцы валакнаватых матэрый жанчыны складаюць 60%, у хімічнае вытворчасьці 55%. Захварваемасьць сярод жанчын, дзякуючы асаблівасьцям жаночага арганізму, вышэй чым сярод мужчын, як па колькасьці выпадкаў, таксама і па колькасьці дзён, але ўсё-ж больш высокая сярэдняя працяжнасьць аднаго выпадку ў мужчын вышэй чым сярод жанчын.

| | На 100 застрахаваных кожнага роду прыходзіцца: | | | | Прыходзіцца дзён дапамогі на 1 выпадак хваробы | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Выпадкаў непрацаздольнасьці (агульныя захварваньні і калецтва) | | Дзён непрацаздольнасьці, падлягаючых аплаце | | | |
| | М. | Ж. | М | Ж. | М. | Ж. |
| 1926-27 г. . | 87,2 | 110,8 | 633,6 | 769,1 | 7,3 | 6,9 |
| 1927-28 г. . | 90,6 | 123,4 | 647,3 | 835,8 | 7,2 | 6,8 |

Працяжнасьць захварваньня бязумоўна прадстаўляе вялікую цікавасьць для працаўнікоў сацыяльнага страхаваньня, а большасьць выпадкаў хворасьці прыходзіцца на кароткатэрміновыя водпускі (79 проц.), аднак па ліку дзён часовае непрацаздольнасьці гэтыя хваробы займаюць толькі 38 проц. усіх дзён непрацаздольнасьці. Аднаднеўкі (самыя

уражальныя бюлецені) складаюць амаль што 20 проц. усіх выпадкаў хваробы, а дзень часовае непрацаздольнасьці складаюць усяго 3,2 проц. Захвараваньні з працяжнасьцю да 3-х дзён па даных 9 губ. РСФСР (каля 200.000 застрахаваных) складаюць каля 18 проц. усіх выпадкаў захвараваньняў, у той час, як у БССР яны складаюць 54 проц. Яўна непамыснае становішча.

| | Процантнае разьмеркаваньне па інтэрвалах працяжнасьці | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Выпадкаў хваробы | | | Дзён хваробы | | |
| | Мужчын | Жанчын | Аб. роду | Мужчын | Жанчын | Аб. роду |
| 1 дзень . . . | 19,4 | 19,3 | 19,4 | 3,1 | 3,4 | 3,2 |
| 2-3 „ . . . | 34,3 | 36,8 | 35,0 | 13,1 | 15,6 | 13,9 |
| 4-7 „ . . . | 24,6 | 24,7 | 24,7 | 20,0 | 22,2 | 20,7 |
| 1-2 тыдні . . . | 12,4 | 11,5 | 12,0 | 20,7 | 21,1 | 20,8 |
| 2-4 „ . . . | 5,7 | 5,0 | 5,5 | 17,4 | 16,4 | 17,1 |
| 5-8 „ . . . | 3,1 | 2,3 | 2,9 | 19,7 | 15,8 | 18,5 |
| 8 і больш тыд. . | 0,5 | 0,4 | 0,5 | 6,0 | 5,5 | 5,8 |

Склад захварваемасьці у буйных прамысловых прадпрыемствах характарызуецца пераважнасьцю:

У мужчын: траўматычных пакалэчаньняў, скурных хвароб і падскурнае клятчаткі, інфэкцыйных хвароб і хвароб органаў траўленьня.

У жанчын: інфэкцыйных хвароб, хвароб моча-палавых органаў, органаў траўленьня, хвароб скуры і падскурнае клятчаткі, траўматычных пакалечаньняў і нэрвовых захварваньняў.

Досыць значнае месца ў захварваньні застрахаваных абодвага роду займаюць хваробы органаў дыханьня, а таксама касьцей і органаў руху.

Інтэнсыўнасьць захварваньняў па паасобных вытворчых групах наступная; першае месца займае хімічная вытворчасьць (2.132 дні на 100 застрахаваных). Самыя высокія паказальнікі па ўсіх клясах хвароб. Па траўматычных пакалечаньнях і скурных хваробах гэтая вытворчасьць дае рэкордныя паказальнікі. Асабліва высокая захварваемасьць на Гомельскіх запалкавых фабрыках:

У 1927 г. на 100 застрахаваных—дзён непрацаздольнасьці.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Запалкавая ф-ка | „Дзьнепр" . . . . | 3.278 | дзён. |
| „ „ | „Вэзувій. . . . . | 2.440 | „ |
| „ „ | „Чырв. Бярэзіна" . . | 1.587 | „ |

У 1928 г. захварваемасьці на ф-цы „Вэзувій" некалькі панізілась, а на ф. „Дзьнепр" значна павысілась, асаблівы траўмы, наскурныя хваробы і інфэкцыйныя хваробы (асабліва сухоты).

Па апрацоўцы дрэва на 100 застрахаваных прыходзіцца 1.876 дзён непрацаздольнасьці у год. Паказальнікі высокія па ўсіх клясах хвароб, асабліва наглядаецца багацьце траўм і хвароб скуры і падскурнае клятчаткі. Ня гледзячы на тое, што папярэднія даныя 1928 г. сьведчаць аб некаторым павышэньні захварваемасьці па ўсей групе дрэва-

апрацовачнае прамысловасьці на лесапільным заводзе імя Томскага на фанернае ф-цы „Чырв. Кастрычнік“ захварваемасьць узрастае.

| | |
|---|---|
| Фанерная фабрыка „Чырв. кастрычнік“ | 2.357 дзён. |
| Гомельскі лесап. зав. імя Томскага | 2.426 „ |
| Бабруйскі „ „ „ № 6 | 2.333 „ |
| Гомельскі „ „ „ „калякт. праца“ | 2.142 „ |
| Бабруйскі „ „ „ № 7 | 1.924 „ |
| Па ўсёй прамысловасьці (апрац. дрэва) | 1.876 „ |

У групе па апрацоўцы мэталю, якая займае 3-е месца па высаце паказальніка захварваемасьці—1.571 дзень на 100 застрахаваных. Павышаная захвараваемасьць адзначаецца па клясе нэрвовых хвароб, хвароб касьцей і суставу, таксама па траўмах і скурных хваробах. Рэкордныя лічбы дае Менскі „Васход“—1.943 дні, Віцебскі „Чырвоны Мэталіст“—1.959 дён і Рэчыцкі гвазьдзільна-вінтовачны завод „Інтэрнацыянал“—2.006 дзён. Гэта ў 1927 г., а ў 1928 г. на гэтых прадпрыемствах захварваемасьць стабілізуецца—не паніжаецца, а надаючымі вялікую небясьпеку робяцца Гомельскі чыгіна-ліцейшы зав. „Пралетары“ і завод с.-г. машын „Рухавік рэвалюцыі“.

У групе вытворчасьці па апрацоўцы мінэральных матэрый, якая дае у 1927 г. на 100 застрахаваных—1.469 дзён (4-е месца), у шклянай прамысловасьці адзначаецца павышаная захварваемасьць па клясах хвароб воргану дыханьня, зроку, траўленьня, па захвараваньнях цяжарных, пасьля радавых і сухотах—другое месца сярод прамысловасьці.

У 1928 г. захварваемасьць у сярэднім хаця і панізілася, але некаторыя прадпрыемствы застаюцца непамыснымі.

| | |
|---|---|
| Полацкі шкляны завод „Труды“ | 2.706 дзён. |
| Менскі „ „ „Пралетары“ | 2.003 „ |
| Бабруйскі „ „ „Кастрычнік“ | 1.697 „ |
| „ „ „ „Камінтэрн“ | 1.573 „ |
| Пры сярэднім для ўсёй прамысловасьці | 1.469 „ |

Завод „Труды“ дае катастрафічныя лічбы па траўмах і сухотах.

У групе „апрацоўка жывотных прадуктаў“, якая складаецца з 2-х скураных заводаў, 6 абутковых і 3-х шчаціных ф-к (1.460 дзён на 100 застрахаваных) 1928 г. таксама дае тэндэнцыю да паніжэньня, акрамя Менскага п-к абутнікаў — 2.173 дні і Віцебскае мэханічнае абутковае ф-кі—1.824 дні.

У паліграф. вытворчасьці, дзе агульна-гадавы паказальнік, параўнальна, не вялікі, зварочвае на сябе ўвагу першая Менская друкарня, якая ў 1928 г. дае ўзрост ліку дзён.

Некалькі памысней становішча на вытворчасьці паперы, на прадпрыемствах па апрацоўцы харчовых прадуктаў, па апрацоўцы валакнаватых матэрый і на электрастанцыях.

У агульнае масе прамысловых прадпрыемстваў за першую палову 1928 г. наглядаецца некаторае паніжэньне паказальнікаў, як выпадкаў, таксама і дзён захварваемасьці.

На 100 застрахаваных прыходзілася дзён і выпадкаў непрацаздольнасьці:

| | Выпадкаў | Дзень |
|---|---|---|
| I квартал 1927 году | 65,4 | 404,6 |
| II „ „ „ | 56,5 | 356,0 |
| III „ „ „ | 57,6 | 362,8 |
| IV „ „ „ | 64,9 | 389,0 |
| I-ы „ 1928 „ | 59,5 | 383,6 |
| II „ „ „ | 52,5 | 343,8 |

Пераходзячы да прамысловага траўматызму у БССР, прыходзіцца канстатаваць, што рэгістрацыя траум, вытвараемая страхкасамі па адзнаках урачоў у больнічных аркушох, па даведках на прадпрыемствах дастаткова здавальняючая (па даных Цустраху зацярушаньне бытавымі траўмамі раўняецца 3—4%. Нездавальняючы інспэкцыі працы зьбіраць паведамленьні па прадпрыемствах, асабліва у некаторых акругох, так у Менскае Інспэкцыі працы процант паведамленьняў ўсяго—8.

Па колькасьці траум, вылічаных на 1000 поўных рабочых за год, групы прамысловасьці разьмяркоўваюцца ў некалькі іншым парадку. Па агульных захвараньня першае месца займае хімічнае прамысловасьць, апрацоўка мэталю 3-е месца, а па траўмах яны займаюць першае месца, а хімічная другое.

У 1927 г. на 1000 поўных рабоч. прыходзілася няшчасных выпадкаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Апрацоўка мэталю | 539 | Харчовая прамысловасьць | 312 |
| Хімічная вытворчасьць | 464 | Апрацоўка жывотных прадуктаў | 228 |
| Апрацоўка дрэва | 455 | „ паперы | 157 |
| „ мінэр. матэрый | 424 | Графічная вытворчасьць | 88 |
| Электрастанцы | 317 | Апрацоўка валакнаватых матэрый | 66 |
| | | У сярэднім па ўсіх групах | 313 |

Між тым, як па прамысловасьці Маскоўскай губ. паказальнік ровен 151—ў два з лішкам разы менш, чым па БССР.

У мэталеапрацовачнай прамысловасьці, якая займае у нас першае месца (у Маскоўскае губ.—3-е) найбольшая частка адзначана на Віцебскім Чырвоным Мэталісьце (725) і на Гомельскім „Рухавіку Рэвалюцыі"—524. Большасьць пакалечаньняў зьяўляюцца лёгкімі: 70% выпадкаў прыходзіць на непрацаздольнасьць да 1 тыдня, сярэдняя працяжнасьць аднаго выпадку—6,8 дню. Даныя за першыя паўгодкі 1928 г. не адзначаюць тэндэнцыі да паніжэньня прамысловага траўматызму у мэталеапрацовачнае прамысловасьці і на гэтым павінны асабліва зьвярнуць увагу страхавыя касы.

Другое месца займае хімічная вытворчасьць—464 выпадкі, працяжнасьць (сярэдняя) аднаго выпадку—6,1 дню. Найбольш непамысныя:

| | |
|---|---|
| Запалкавая ф-ка „Днепр" | 635 |
| „ „ „Вэзувій" | 410 |

Трэцьце месца займае апрацоўка дрэва—(сярэдняя—455 выпадкаў), а

| | | |
|---|---|---|
| Бабруйскі лесазавод імя | Вароўскага | 864 |
| „ „ „ | Фрунзе | 752 |
| „ „ „ | „Камінтэрн" | 671 |
| Мазырскі „ „ | „Пралетары" | 644 |
| Барысаўскі „ „ | „Камінтэрн" | 631 |
| Гомельскі „ „ | „Дрэваапрацоўнік" | 574 |
| Бабруйскі „ „ | „Спартак" | 516 |
| | фанэрная ф-ка імя „Томскага" | 753 |

Цяжкасьці прамысловых траум у дрэваапрацовачнае прамысловасьці значныя: працяжнасьць аднаго выпадку—8,1 дню, пры чым на аднаднеукі падае усяго—11 проц. усіх выпадкаў. У 1928 г. наглядаецца незначнае зьніжэньне паказальніка частаты няшчасных выпадкаў, акрамя Менскага заводу „Дрэваапрацоўнік", якія даў некаторае павышэньне траум.

У апрацоўцы мінэральных матэрый, якая займае 4-е месца (424 выпадкі), цяжкасьць няшчасных выпадкаў вельмі незначная: працяжнасьць аднаго выпадку—5,8 дзен, пры чым на траумы з працяжнасьцю

да аднаго тыдня прыходзіцца каля 75 проц. усіх выпадкаў. Асаблівую ўвагу па частаце выпадкаў зварочвае на сябе:

| | |
|---|---|
| Полацкі шкляны завод „Труды“ | 750 |
| Бабруйскі шкляны завод „Кастрычнік“ | 717 |
| Менскі „ „ „Пралетары“ | 649 |

Сярод прадпрыемстваў па харчовай прамысловасьці, якія у сярэднім даюць не вельмі значныя паказальнікі—312 выпадкаў—асабліва выдзяляюцца Гомельскі сьпірта-водачны завод (623 вып.)—па другіх у сярэднім—200 выпадкаў, Аршанскі бровар „Спартак“ (609 выпадкаў)—па другіх 354—454 выпадкаў, Бабруйскі дражджавы зав. № 4 (525 выпадкаў)—па другіх 67—250 выпадкаў 1928 год даў некаторае зьніжэньне па усіх заводах гэтага віду прамысловасьці.

У папяровай прамысловасьці і паліграф. вытворчасьці характар траум сур‘ёзней, як у другіх вытворчасьцях: працяжнасьць аднаго выпадку—8,5—8,7 дню, пры чым у графічнае вытворчасьці удзельная вага аднадневак складае толькі 3 проц., у швейнае прамысловасьці шмат траум наглядаецца толькі у Меншвею—(150 выпадкаў).

I.

Вялічыня і узрост паказальнікаў часовай непрацаздольнасьці па агульных захварваньнях і асабліва па прамысловаму траўматызму павінны прыкаваць да сябе асаблівую увагу ворганаў сацстрахаваньня БССР. І калі такія прычыны, як 1) узростны склад — больш старыя рабочыя часьцей і працяжней хвараюць, 2) палавы склад—жаночая частка пралетарыяту, дзякуючы асабліваму складу свайго арганізму, дае больш высокія паказальнікі, 3) кваліфікацыя рабочых—-адсутнасьць псыхо-фізіолёгічнага адбору павялічвае лічбы прамысловых траум сярод меньш кваліфікаванае часткі рабочых—знаходзіцца паза сфэрай дзейнічаньня ворганаў сацстрахаваньня, дык цэлы шэраг момантаў вельмі паважных знаходзіцца пад уплывам страхкас, а шмат з іх знаходзіцца цалкам пад уплывам той палітыкі, якую тая або іншая страхкаса вядзе пагэтаму пытаньні.

II.

Вялізарны уплыў на узрост паказальнікаў мае: 1) санітарны стан самага прадпрыемства, 2) стану на ім тэхнікі бясьпекі і аховы працы і 3) жыльлева бытавыя умовы рабочых. Сувязь страхкас з сан. інспэкцыяй працы павінна быць цесьная і сталая сыстэматычныя абсьледваньні найбольш буйных прамысловых прадпрыемстваў страхкасай, сумесна з сан. інспэктарам працы і сан. урачом, павінна быць штодзеннай задачай страхкасы. Уселякая непамыснасьць у паказальніку дзен непрацаздольнасьці на тым ці іншым прадпрыемстве павінна быць адразу узята пад увагу страхкасай, і яе прадстаўнік павінен быць туды зараз жа нэкіраваны сумесна з сан. інспэкцыяй працы для высьвятленьня і адхіленьня прычын. Ініцыятыву гэткага абсьледваньня павінна узяць на сябе страхкаса, калі яе ня выяўляе Інспэкцыя працы. Права рэгрэсыўнага іску павінна быць выкарыстана у тых выпадках, калі адміністрацыя прадпрыемства не прымае належных захадаў па паказаньнях акту камісіі па абсьледваньні.

III.

Стан сеткі аховы здароўя мае вялікі уплыў на паказальніка непрацаздольнасьці. Добра наладжаная амбуляторная сетка, правільна працуючыя пункты мэддапамогі на прадпрыемствах, урачы здастатковай кваліфікацыяй і дастатковым страхавым выхаваньнем, максымальнае

скарыстаньне у стацыянарах ложак для застрахаваных, правільнае скарыстаньне ворганамі аховы здароўя фонду мэддапамогі, які зьяўляецца датацыйным,—усе гэта, бязумоўна, памяньшае колькасьць і працяжнасьць захварваньня, а такім чынам і колькасьць дзен непрацаздольнасьці. Палепшаньне якасьці мэддапамогі, уважлівая і сумленная адносіна лечачых урачоў да застрахаваных, пэрыядычнае інструктаваньне урачоў на агульных сходах і амбуляторыях і стацыянарах, абсьледваньне пастаноўкі мэдыка-санітарнае справы у лекавых і прафіляктычных установах, удзел у конкурсных камісіях пры адборы урачоў для лекустаноў, абслугоўваючых застрахаваных, абсьледваньне рэвізыйнымі камісіямі акрстрахкас, правільнасьці выдаткаваньня сум лекфонду інспэктурай аховы здароўя і паасобнымі лекустановамі могуць мець грунтоўны уплыў на вялічыну паказальніка часовай непрацаздольнасьці.

IV.

Урачэбны кантроль—арганізацыя, якая знаходзіцца выключна у веданьні страхкас—уся праца якой накіравана выключна для выяўленьня недахопаў мэддапамогі і да вучоту правільнасьці выдаткаваньня фонду часовай непрацаздольнасьці, рацыянальна і правільна пастаўлены, можа мець вялікі уплыў на высату паказальніка па агульных захварваньнях і прамысловаму траўматызму. Вывучэньне даручанымі ўрачамі працэсаў вытворчасьці на прадпрыемствах, кіраўніцтва лекавымі ўрачамі у штодзеннае працы лек. устаноў па пытаньнях страхавой палітыкі, выклікі паасобных леч. урачоў у страхавую касу дзеля „унушэньня“ у выпадках парушэньня гэтае палітыкі, грашовыя вылікі пры неправільна прадстаўленым водпуску і скарыстаньне права адводу урача пры сыстэматычным парушэньні ім правілаў выдачы водпуску, барацьба з водпускамі, якія выдадзены пасьля п'янкі, шырокае скарыстаньне пэрыядычнага друку для высьвятленьня дзейнасьці урачэбнага кантролю і яго задач, выяўленьне у друку яўных выпадкаў сымуляцыі і агравацыі і утварэньне над імі наглядных працэсаў, устаноўленьне цеснага кантакту з камісіямі па ахове працы на прадпрыемствах, страхдэлегатамі і усей шырокай рабочае грамадзкасьцю вось якія задачы маюць страхкасы у штодзеннае іх працы.

## Матар'ялы да дакладу тав. Давідовіча „Аб далейшае рабоце па палепшаньні і спрашчэньні абслугоўваньня застрахаваных“.

### Разьдзел I.

1. Рацыяналізатарская работа ў ворганах сацыяльнага страхаваньня Беларусі (спрашчэньне сыстэмы абслугоўваньня застрахаваных) бярэ свой пачатак у другой палове 1926-27 г. у сваем разьвіцьці рацыяналізатарская дзейнасьць органаў Сацстраху Беларусі перажыла два пэрыяды: а) шуканьне шляхаў арганізацыйнае сувязі з мясцамі, эканамкамісіямі і г. д. і спрашчэньне тэхнікі паасобных галін работы па абслугоўваньню застрахаваных (травень 1927 г.—люты 1928 г.); б) пераход да грунтоўнае зьмены некаторых участкаў работы з падлікам вопыту, які маюць месцы у выніку шырокага смотру ворганаў сацстраху друкам і групай НК РСІ СССР (сакавік 1928 г. — студзень 1929 г.).

2. Праведзеныя мерапрыемствы па абслугоўваньню застрахаваных далі бязумоўна значныя рэзультаты і дапамаглі палепшыць якасьць абслугоўваньня застрахаванае масы: а) прыбліжана выплата дапамог па часовае непрацаздольнасьці да застрахаваных; б) скарочана колькасьць даведваньняў беспрацоўнымі і пэнсіянэрамі страхкас; в) маецца некаторая ліквідацыя чарог; г) усё гэта праведзена пры адначасным патаненьні кошту ўтрыманьня апарату страхкас.

### Разьдзел II.

У аснаўным рацыяналізатарская дзейнасьць ахапіла наступныя вучасткі работы:

**3. Збліжэньне апарату да застрахаванае масы**. Работа гэта ў сваём разьвіцьці перажыла два этапы. Першы этап—арганізацыя гарадзкіх выплатных пунктаў (Менск, Віцебск) і ўвядзеньне аплаты бальнічных аркушаў у вячэрнія гадзіны (Полацак, Магілеў і др.). Другі этап—пераход на выплату дапамогі па часовае непрацаздольнасьці, а частковa і па дадатковых відах, непасрэдна на прадпрыемствах і ва ўстановах, якія налічваюць больш 50 чал., шляхам ліквідацыі гарадзкіх выплатных пунктаў і ўтвярэньня інстытуту арцельшчыкаў.

Гэтае мерапрыемства яшчэ не ў дастатковай ступені разгорнута ў некаторых касах і зусім мала практыкуюцца дагаворныя начaлы з дробнымі прадпрыемствамі і ўстановамі аб дастаўцы бальнічных аркушаў у страхкасы праз вылучаных страхавацелямі ўпаўнаважаных і аплата аркушаў касай прадпрыемства пасьля адпаведнага разьліку ў страхкасах.

Бліжэйшае задачай зьяўляецца: а) паўсюдны поўны абхоп інстытутам арцельшчыкаў усіх прадпрыемстваў і ўстаноў, якія налічваюць больш 50 чал. застрахаваных, больш пашыранае дапасаваньне дагаворных начал з страхавацелямі аб зборы і дастаўцы імі аркушаў у страхкасы для разьліку, а таксама і па выкарыстаньні іх апарату (скарбнікаў) па

выплаце дапамог па часовай непрацаздольнасьці; б) падрахунак практыкі па выплаце дапамог па дадатковых відах на буйных прадпрыемствах праз арцельшчыкаў для высьвятленьня пэрспэктыў узмацненьня гэтага мерапрыемства.

4. **Спрашчэньне тэхнікі выдачы дапамог і пэнсій.** Скарочана колькасьць явак за дапамогай па беспрацоўю з 3 да 2 разоў шляхам здачы кніжак на біржы працы для адзнакі і непасрэднае перадачы іх біржамі страхкасам. Таксама па дадатковых відах—колькасьць явак скарочана да аднаго разу шляхам запаўненьня пры першапачатковым звароце 9 ардароў і адрыву чарговага ордару скарбнікам пры аплаце за бягучы месяц. Таксама па пэнсыянаваньні—да аднаго разу.

Работа гэта па далейшаму спрашчэньні тэхнікі выдачы дапамог па пэнсыянаваньні знаходзіць свае адбіцьце ў правадзімай, як вопыт, выдачы пэнсіі пэнсыянэрам у гарадох праз спэцыяльных арцельшчыкаў і дастаўцы ў адлеглыя мясцовасьці раёнаў праз пошту. У адносіне выплаты дапамог па беспрацоўю, належыць абставіць яе такім чынам, каб выпісваньне дапамог не парушала парадку каталёгу (устанаўленьне расьпісаньня дзён здачы кніжак на біржы па №№ кніжак беспрацоўных, супадаючых з № асабістых рахункаў) з тым, каб патрэбныя даведкі па разьліках маглі-б быць наведзены ў дні выплаты.

5. **Скарачэньне інстанцый і тэрміну прахаджэньня спраў.** 1. Па беспрацоўю прадстаўленьне ўпанаважаным больш буйных раёнаў самастойнага права прызначэньня дапамогі ў бясспрэчных выпадках. Пераход разгляду спраў у гарадох ад камісіі да паасобных вылучаных членаў камітэтаў і толькі пры адмовах—да прэзыдыумаў і камітэтаў кас. Мерапрыемства па перадачы прызначэньня дапамогі па беспрацоўю райупаўнаважаным пакуль што знайшло малае распаўсюджаньне. Аснаўной прычынай зьяўляецца недастатковая кваліфікацыя асабістага складу райупаўнаважных.

Па меры нагрымаджэньня вопыту ў райупаўнаважных і агульнага ўзьняцьця іх кваліфікацыі, прадбачыцца большае распаўсюджаньне прыбліжэньня прызначэньня дапамогі па беспрацоўю да раёнаў. Ад сыстэмы камісіі па прызначэньні дапамогі па беспрацоўю ў раёнах (Ворша), працягваючых толькі тэрмін прахаджэньня спраў, пры адсутнасьці ў іх патрэбы, дзякуючы наступнаму кантролю страхкас, прыдзецца адмовіцца. 2. Па пэнсыянаваньні—кодыфікацыя законадаўства, пераход прызначэньня пэнсіі ў бясспрэчных выпадках да аднаго члена Камітэту і ўзрост гібкасьці апарату, мелі ўплыў на скарачэньне прахаджэньня спраў. Аднак, магчымы далейшыя скарачэньні тэрмінаў прахаджэньня спраў пры больш чоткай рабоце апарату і ў стандарызацыі спраў справаводзтва.

6. **Упарадкаваньне пытаньня штатаў, дзяржнармаваньня і нормы выпрацоўкі.** Распрацаваная адзіная структура апарату акруговых страхкас, уніфікацыя пасад—дэтальнае разьмеркаваньне функцый паміж паасобнымі работнікамі, дзяржнармаваньне зарплаты, дапамаглі ўстанаўленьню большай чоткасьці ў рабоце і разам з гэтым далі магчымасьць скараціць апарат (на I/X—26 г. 279 адзінак, а на I/III—28 г.—186 адз.).

Вытвараныя падрыхтоўчыя работы па перагляду сеткі райупаўнаважных і па распрацоўцы праэктаў дзяржнармаваньня іх зарплаты, павінны ў бліжэйшы час знайсьці свае канчатковае афармленьне з падлікам з аднаго боку магчымасьці скарачэньня сеткі ў мясцох, якія налічваюць нязначную колькасьць застрахаваных (прыкладна 200) шляхам ускладаньня абавязкаў райупаўнаважнага на каго-небудзь з мяс-

цовых работнікаў па сумясьціцельству, або шляхам перадачы выплаты дапамог па часовай непрацаздольнасьці страхавацелям і з другога боку забясьпечаньня поўнага правядзеньня страхаваньня батрацтва і пастушаства.

Выкліканыя зьмены ў некаторых працэсах тэхнічнае работы страхкас, увадзімымі новымі формамі справаводзтва і момантамі рацыяналізацыі, павінны быць вывучаны, прыкладна, да ліпеня м-ца з тым, каб былі ўнесены патрэбныя карэктывы ў структуру і штат кас пры складаньні бюджэту на 1929-30 г.

У падставу ўстанаўленьня нармальных штатаў павінны легчы рэзультаты па вывучэньні норм вырабаткі, каторыя да гэтага часу мала вывучаны, а ў некаторых мясцох да іх нават ня прыступлена. Вытвараны папярэдні вопыт у Менску вызначыў дзенную норму вырабаткі па больнічных аркушох ад 118 да 136, па інваліднасьці прыблізна 240, а па беспрацоўю прыблізна 200 разрахункаў. Зразумела, у нормах вырабаткі павінны знайсьці сваё адбіцьцё ўсе мясцовыя ўмовы (адсутнасьць у некаторых касах спэцыяльных альфабэцістаў і г. д.).

7. **Формы справаводзтва.** Адсутнасьць да апошняга часу стандартных форм справаводзтва, дапасаваных да бягучае стадыі апэрацыйнае работы страхкас выклікала разнабой, у асаблівасьці ў формах вядзеньня каталёгаў застрахаваных (Віцебск, Ворша). Паасобнымі страхкасамі і Галоўсацстрахам вывучалася пытаньне па спрашчэньні і ўпарадкаваньні форм справаводзтва. Заключэньні накіроўваліся ў вышэйстаячыя страхворганы з завастрэньнем увагі на неабходнасьць хутчэйшага разьвязаньня пытаньня. Увадзімыя ў сучасны момант стандартныя формы справаводзтва будуць, бязумоўна, мець свой дадатны ўплыў. Аднак, на некаторых формах адбіваецца факт прысылкі іх цустрахам у канчатковай форме без папярэдняга заключэньня па іх з месцаў.

Побач з увядзеньнем у жыцьцё новых форм справаводзтва прадбачыцца: а) хутчэйшая рацыяналізацыя тэхнікі прыёму страхавых узносаў за хатніх работніц (паўсюднае ўстанаўленьне сярэдняе зарплаты) стандартная кніжка замест штомесячнага прадстаўленьня ведамасьцей, марачная сыстэма або спагнаньне праз контр-агентаў і тэхнікі форм спагнаньня наогул і бясспрэчна прымусовага спагнаньня ў прыватнасьці; б) упарадкаваньне пратакольнага справаводзтва з устанаўленьнем тэхнікі кантролю над выкананьнем пастаноў камітэтаў і прэзыдыумаў. устанаўленьне цьвёрдае наменклатуры спраў, парадку вучоту і хаваньня дакумантаў і г. д.; в) устанаўленьне стандартных форм справаводзтва і справаздачнасьці ў раёнах.

## Разьдзел III.

Пытаньні рацыяналізацыі і спрашчэньня абслугоўваньня застрахаваных ня вычэрпваюцца аднымі ўнутранымі тэхнічнымі пераменамі паасобных працэсаў работы, а зьвязаны з агульнае пастаноўкай работы, якая ў аснаўным павінна пайсьці па наступных напрамках:

8. **Плянавасьць і праверка выкананьня дырэктыў.** Існуючы ў сучасны момант парадак складаньня плянаў работ бязпрыемственасьці ад вышэй стаячага да ніжэй стаячага страхворгану і з прычыны таго бяз узаемнае іх увязкі адбіваецца на ступень іх выкананьня.

Пытаньням пляну належыць вылучаць большае месца, парадак складаньня павінен гарантаваць поўнае іх выкананьне. Трэба, каб аснаўныя мерапрыемствы, уключаемыя ў пляны вышэйстаячых органаў знайшлі сваё адбіцьцё ў плянах (складаемых пазьней па часу)

ніжэйстаячых органаў і пераламляліся там у адпаведнасьці з умовамі месца і практычнага парадку іх выкананьня. Агульныя пляны абавязкова павінныісьці побач з каляндарнымі расьпісаньнямі і вылучэньнем адказных асоб за выкананьне паасобных пунктаў. Адначасна з гэтым павінен быць устаноўлен чоткі вучот выкананьня дырэктыў вышэйстаячых страхворганаў, пастаноў камітэтаў і прэзыдыумаў кас, выкананьня пляну, заслухвацца ў плянавым парадку справаздачы паасобных членаў камітэту аб іх рабоце і г. д.

**9. Кіраваньне работай месцаў**. Пры агульным палепшаньні кіраваньня з боку Галоўсоцстраху аргработай страхкас шляхам плянавага выданьня і пасылкі інфармацыйна-дырэктыўных лістаў, сыстэматычнага нагляду за работай страхкас па паступаючых матар'ялах і дачы дырэктыў па іх канстатуецца недастаковая жывая сувязь з месцамі. Побач з гэты адзначаецца дасканальнае абсьледваньне тых кас, дзе гэткае вытварана (папярэдняя адпаведная падрыхтоўка, грамадзкі характар самаго абсьледваньня з прыцягненьнем рэўкамісіі, профорганаў, эканамкамісіі, РСІ і г. д.). Недастатковая жывая сувязь адзначаецца і з боку акрстрахкас у адносіне да раёнаў. Адмоўным зьявішчам трэба лічыць тое, што у раёнах не пакідаюцца матар'ялы па абсьледваньні (Сураж).

У будучым прадбачыцца ўзмацненьне жывой сувязі з мясцамі, бязумоўнае выкананьне каляндарных плянаў абсьледваньня з тым, каб не радзей аднаго рязу ў два гады вытваралася адно паглыбленае абсьледваньне і аднаго разу ў год праверка выкананьня дырэктыў кожнай акрстрахкасы і па два разы на працягу году абсьледваўся-б касай кожны раён. Па зьместу іфармацыйна - дырэктыўныя лісты, выдаваемыя адзін раз у месяц, павінны прадстаўляць сабой кіруючыя паказаньні па аснаўных пытаньнях работы па сацстраху кансультацыйнага характару па паасобных пытаньнях, з асьвятленьнем вопыту месцаў, пэрыядычных (квартальных, паўгадовых) фінансава-статычных аналізаў у акруговых разрэзах і, нарэшце, з аддзелу хронікі. У акрстрахкасах таксама павінен дапасоўвацца мэтад пэрыядычных лістаў, як сродак кіраваньня работай райупаўнаважаных і дачы ім паказаньняў па штомесячных фінансавых справаздачах.

**10. Якасны падбор асабістага складу**. Вялізарнае значэньне для забясьпечаньня якасьці работы мае падбор работнікаў акрстрахкас, якія павінны адпавядаць свайму прызначэньню ня толькі па тэхнічнае кваліфікацыі, але і па ўразуменьні грамадзкага характару сваіх функцый. Паміж тым наглядаюцца паасобныя моманты процілеглага характару, маюцца факты бюракратычнае адносіны ў паасобных касах (Гомель, Бабруйск—па матар'ялах РСІ). З гэтае мэтай неабходна правесьці наступныя мерапрыемствы па палепшаньні складу страхавых работнікаў: а) праверыць наяўны склад страхавых работнікаў, як у адносіне іх кваліфікацыі, так і разуменьня імі грамадзкага значэньня страхавой работы і нягодных замяніць больш падыходнымі работнікамі; б) узмацніць кантроль за работай супрацоўнікаў і пашырыць адказнасьць за выконваемую імі работу; в) узьняць кваліфікацыю страхавых работнікаў шляхам арганізацыі на мясцох гурткоў па сацстраху, а пры Галоўсоцстраху—курсаў па сацстраху ў 1929 г. для райупаўнаважаных; г) дабівацца замацаваньня вылучаных для страхавой работы асоб на больш доўгі час у асаблівасьці райупаўнаважаных; д) узмацніць прыцягненьне ў лік страхработнікаў жанчын і моладзі.

**11) Сувязь з эканомкамісіямі**. Устанаўленьне цеснай сувязі з эканамкамісіямі (асабліва Менск, Віцебск, Магілеў) шляхам сваячаснага завастрэньня Галоўсацстрахам іх увагі на галоўныя чарговыя пытаньні,

адзначаныя да абмеркаваньня Галоўсацстрахам, вывучэньне маючагася вопыту ў паасобных касах з мэтай распаўсюджаньня найбольш каштоўных дасягненьняў і на другія касы, далі магчымасьць пры правядзеньні тых ці іншых рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў падлічыць умовы месцаў і забясьпечыць гэтым посьпех іх правядзеньня.

Аднак, сувязь гэту трэба ўзмацніць, надаць ёй рэгулярны характар дзе яна ўстаноўлена і ажывіць эканамработу ў касах, маючых аб'ектыўныя даныя для шырокае работы ў гэтым напрамку, але яшчэ не раскалыхаўшыхся (Гомель).

**12. Масавая работа.** Масавая работа страхкас, ня гледзячы на маючыяся ў гэтай адносіне магчымасьці, была да гэтага часу мала разгорнута, сьледам недастатковае ўвагі да гэтае работы з боку акрстрахкас і прафсаюзаў.

Неабходна: а) улічваючы, што ў сувязі з выплатай дапамогі на прадпрыемствах роля страхдэлегатаў павінна мець асаблівае значэньне, даручыць Галоўсацстраху яшчэ раз паставіць пытаньне перад ЦСПСБ аб вылучэньні страхдэлегатаў, а мясцом даць канкрэтныя паказаньні аб формах сувязі і работы з імі; б) практыкаваць больш шырока пасяджэньні камітэтаў кас на прадпрыемствах з папярэдняй дакладнай падрыхтоўкай парадку дню і поўнага сваячаснага асьведамленьня адпаведных калектываў прадпрыемстваў для забясьпечаньня шырокага наведваньня і ўдзелу іх у абгаварэньні пытаньняў на адпаведных пасяджэньнях камітэтаў; в) бязумоўнае выкананьне маючыхся дырэктыў аб справаздачных дакладах на буйных прадпрыемствах і ва ўстановах, ня менш аднаго разу ў 6 месяцаў, для чаго дабівацца ўключэньня гэтых справаздачных дакладаў у пляны работ ФЗМК і акраддзяленьняў саюзу; г) шырэй удзельнічаць у праводзімых прафарганізацыямі вечарох пытаньняў і адказаў, прымаючы пад увагу пажаданьні рабочых і іх паказаньні аб недахопах у рабоце; д) прыцягваць паасобных членаў камітэтаў для сыстэматычнага вядзеньня ў прадпрыемствах паясьняльнай работы па пытаньнях страхавога законадаўства і практыкі і нагляду за адпаведным укамплектаваньнем бібліятэк адпаведных калектываў літаратурай па сацстраху (у сучасны момант кнігі па сацстраху і часопіс „Пытаньні страхаваньня“ зьяўляюцца там рэдкім зьявішчам; е) вылучэньне членаў камітэтаў і супрацоўнікаў для сыстэматычнага ўдзелу ў друку па пытаньнях паясьненьня законадаўства па сацстраху і асьвятленьня бягучых пытаньняў страхавой практыкі ў тым ліку і пытаньняў мэддапамогі; ж) вядзеньне масавае работы сярод інвалідаў шляхам арганізацыі для іх кутка і забясьпечаньня яго літаратурай.

---

Друкарня „БДВ“. Заказ № 1866.—500 экз. Галоўлітбел № 1025.

